12 чэрвеня 2015 | № 23 (440)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Дыялог у адны вароты

стар. 5



# Размова сляпога з глухім

## Пакуль еўрапейскія эксперты развіваюць «дыялог з Беларуссю», афіцыйны Мінск можа рабіць усё, што заўгодна



Сяргей ПУЛЬША

Апошнім часам да Беларусі багата прыхаванай і непрыхаванай увагі. З зайздроснай рэгулярнасцю сюды наведваюцца розныя еўрапейскія эмісары. Захад зноў задумаўся, як ставіцца да «дыктатуры ў цэнтры Еўропы».

Днямі ў Мінск завітала прадстаўнічая група экспертаў — дэлегацыя працоўнай групы па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі Рады Еўрасаюза. Яны сустрэліся з намесніцай міністра замежных спраў Беларусі Аленай Купчынай, а таксама традыцыйна — з прадстаўнікамі апазіцыі, праваабаронцамі і «трэцім сектарам».

Гэтая рабочая група ўяўляе сабой экспертны орган з прадстаўнікоў усіх 28 краін-чальцоў ЕС. У яе кампетэнцыі — разгляд усіх аспектаў двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва ў рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства. Вялікае значэнне візіту гэтай групы ў тым, што, як вядома, у органах ЕС не так шмат людзей, якія добра разбіраюцца ў беларускіх справах. Таму і ўяўленне пра Беларусь, і, адпаведна, рашэнні, якія прыме ЕС у дачыненні да «крыштальнага сасуда», шмат у чым залежаць ад гэтага экспертнага меркавання.

Пра тое, што цікавіла еўрапейцаў, распавёў «Радыё Свабода» лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. Па ягоных словах, эксперты спрабавалі высветліць «нашы падыходы і прагнозы на прэзідэнцкія выбары, нашы меркаванні адносна эфектыўнасці еўрапейскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі, адносна дыялогу і візавых санкцый і іншыя пытанні, звязаныя з дынамікай стасункаў паміж ЕС і афіцыйным Мінскам». Замежнікі даволі сур'ёзна ставяцца да перспектываў дыялогу і настроены на тое, што гэты дыялог будзе развівацца, распавёў Янукевіч.

Безумоўна, дыялог — гэта заўсёды добра. Але ў тым выпадку, калі гэта сапраўды дыялог.

Вось ужо два гады, як кіраўнік беларускага МЗС Уладзімір Макей атрымаў статус «выязнога ў Еўропу». За гэты час адзінае ўмоўнае дасягненне — амаль скончаныя перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму паміж сінявокай і ЕС. Удзел жа Беларусі ў розных еўрапейскіх праектах зводзіцца да аднаго: «Дайце грошай!» На тое, што можаце, — памежную інфраструктуру, «зялёную» энергетыку ў прыватнасці і развіццё энергетычнага комплексу ў цэлым (неістотна, што мы з парушэннямі Орхускай канвенцыі будуем разам з Расіяй небяспечную АЭС), транспарт і камунікацыі.

Таму больш слушнае пытанне задала ў Швецыі каардынатарка аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Вольга Кавалькова. На сустрэчы ў Стакгольме з прадстаўнікамі шведскага парламента, еўрадэпутатам ад Швецыі Енсам Нільсанам і кіраўніком аддзялення Усходняй Еўропы шведскага МЗС Петрай Ларке яна запыталася: «Колькі гадоў вядзецца дыялог ЕС з беларускай уладай? А дзе вынікі дыялогу?»

Паводле Кавальковай, вынік гэтага «дыялогу» — палітзняволеныя, немагчымасць рэгістрацыі палітычных і грамадскіх арганізацый, жорсткія законы ў дачыненні да свабоды слова, сходаў і простых людзей. «Вось, на жаль, вынік дыялогу. У ім плюсы мае толькі ўлада», — адзначыла яна.




Нельга з Кавальковай не пагадзіцца. Сапраўды, у прынцыповых для Еўропы пытаннях ніякага зруху да паразумення за два гады «выязнога Макея» не адбылося. Статкевіч, Аліневіч і Дзядок застаюцца за кратамі, больш за тое, да іх далучыўся Юрый Рубцоў. У Беларусі заканадаўча ўзмацніўся кантроль над СМІ і інтэрнэтам, ніякіх зрухаў у напрамку забеспячэння свабоды сходаў і асацыяцый не адбылося. І ў той жа час падпісаныя «дэкрэт аб дармаедстве» і «дэкрэт пра прыгоннае права ў мадэрнізацыі», якія фактычна ўзаконьваюць прымусовую працу.

Ці гэтага чакала Еўропа з «нармалізацыі адносінаў» і «дыялогу»? Відавочна, што не, але ўзнікае ўражанне, што яе гэта задавальняе.

> **Еўропа мяркуе, што вядзе з афіцыйным Мінскам «дыялог»**

Калі Макею дазвалялі ўезд у ЕС, літоўскі еўрапарламентар Юстас Палцкіс казаў, што гэта толькі на паўгода. «Калі за гэты перыяд у адносінах паміж Брусэлем і Мінскам адбудуцца станоўчыя зрухі, то візавую забарону могуць адмяніць цалкам. Калі ж усё застанецца па-ранейшаму, то Макею зноў вернуць статус неўязнога ў Еўрасаюз», — тлумачыў Палцкіс умовы зняцця візавых санкцый з Макея.

Таму Кавалькова мае права запытвацца: «Дзе гэтыя станоўчыя зрухі? Пакажыце іх!» Інакш як патлумачыць, што Макей дагэтуль гойсае па Еўропах?

Еўропа мяркуе, што вядзе з афіцыйным Мінскам «дыялог». Афіцыйны Мінск слухае, але ўсё роўна робіць, што рабіў, і адмаўляцца ад такой палітыкі не збіраецца.

Так што ніякага дыялогу з Еўропай няма. Ёсць маналог Захаду ў дачыненні да афіцыйнага Мінска, і маналог афіцыйнага Мінска да Захаду. Гэткая размова сляпога з глухім. Прычым глухі за тое, што выслухае сляпога, атрымлівае грошы і палітычныя бонусы. А сляпы не бачыць, што глухі робіць, і працягвае называць гэта «дыялогам».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГЛУСК. Суботнік да восеньскіх «Дажынак»

**У Глускім раёне 13 чэрвеня адбудзецца чарговы суботнік для збору сродкаў на падрыхтоўку да раённых «Дажынак» у аграгарадку Заеліца.**

Па словах старшыні Глускага райвыканкама Уладзіміра Царыкава, каб прывесці ў парадак будучы цэнтр мясцовых «Дажынак», куды на свята збярэцца ўвесь раён і прыедуць шматлікія госці, глусчанам можа спатрэбіцца яшчэ не адзін суботнік, паведамляе інтэрнэт-сайт глускай раённай газеты «Радзіма».

У гэтым годзе ва ўсіх раёнах вобласці ўжо прайшлі абласны, рэспубліканскі і па адным-два мясцовых раённых суботнікі. Жыхары Магілёўшчыны ў прыватных гутарках абураюцца такім вось своеасаблівым рэкетам з боку ўладаў, аднак голасна свой пратэст амаль не выказваюць, баяцца згубіць працу.

Абласныя «Дажынкі» ў Магілёўскай вобласці ў гэтым годзе пройдуць у Круглянскім раёне, дзе таксама ўжо праведзена некалькі суботнікаў і «дзён безаплатнай працы».

У суседнім Бялыніцкім раёне, акрамя рэспубліканскага і абласнога суботнікаў, прайшлі яшчэ два раённыя. Заробленыя на іх грошы былі накіраваныя на добраўпарадкаванне гарадскога пасёлка Бялынічы. Для супрацоўнікаў мясцовых арганізацый стала нормай рэгулярная праца ў сельгасарганізацыях раёна «ў мэтах аказання ім неабходнай дапамогі».

### МІКАШЭВІЧЫ. Актывісту адмовілі ў працаўладкаванні

**Сябра БСДП (Грамада) Віталь Каліноўскі двойчы спрабаваў працаўладкавацца праз Мікашэвіцкі цэнтр занятасці.**

Першы раз спецыяліст Цэнтр занятасці накіраваў Віталя Каліноўскага ў фірму «Норвуд Плюс», дзе была вакансія і адкуль яго звольнілі за ўдзел у мясцовых выбарах. Калі актывіст з'явіўся туды, месца было занята «ўчора». Спецыяліст цэнтра вельмі здзівілася, таму што перад накіраваннем пыталася наконт вольнага працоўнага месца ў дырэктара.

Другі раз з Цэнтру занятасці накіравалі Віталя Каліноўскага ў вёску Любань даглядаць цялят. Ён пагадзіўся.

Супрацоўніца кадравага аддзелу калгаса Кацярына Ермалёнак вельмі ўзрадавалася маладому работніку, але прапанавала працу пастухом. Віталь Каліноўскі пагадзіўся, але папярэдзіў, што з'яўляецца сябрам партыі і займаецца грамадскай дзейнасцю, каб потым праз месяц за гэта не звальнялі. Кацярына Ермалёнак сказала, што галоўнае, каб пасвіў кароў, а астатняе — няважна. Аднак, калі Віталь Каліноўскі папярэдзіў, што калі ўмовы працы будуць мяняцца, будзе змагацца за свае правы, супрацоўнік адказала, што такі работнік ім не патрэбны, і прапанавала ісці да старшыні калгаса, каб той падпісаў ліст з цэнтра занятасці, што на працоўнае месца ўзялі іншага. Старшыня з задавальненнем падпісаў ліст, што месца ўжо «занятае».

### БЯРОЗА. Новыя правілы масавых мерапрыемстваў

**Праваабаронцы Тамара Шчапёткіна і Сяржук Русецкі пацікавіліся ў райвыканкаме, як заяўнікі масавых мерапрыемстваў змогуць заключыць дамовы з міліцыяй, бальніцай і ЖКГ.**

Справа ў тым, што ў рашэнні ад 26 верасня 2014 года № 1070 «Аб унясенні дапаўненняў у рашэнне Бярозаўскага райвыканкама ад 09.02.2010 г.» выдалены пункт №4, дзе было сказана, што разам з падачай заявы на пікет патрэбны копіі дамоваў з вышэй пералічанымі ўстановамі. Праваабаронцы атрымалі адказ: заключэнне дамоваў з бальніцай, ЖКГ і міліцыяй стане магчымым пасля выдачы райвыканкамам дазволу на масавае мерапрыемства.

Але звычайна райвыканкам дасылае адказ за 5 дзён да мерапрыемства, а названыя ўстановы, у сваю чаргу, таксама патрабуюць часу на заключэнне дамоў не меней за 2 тыдні. Яшчэ горш, калі ў пяць дзён да даты мерапрыемства ўваходзяць выходныя.

Нагадаем, што праваабаронцы змагаліся 3 гады, каб Бярозаўскі райвыканкам змяніў сваё рашэнне ў п.4 згодна з Пастановай Савета міністраў № 207, згодна з якой дамаўляцца з міліцыяй павінен сам райвыканкам пасля падачы заявы на масавае мерапрыемства.

Першае змяненне рашэння райвыканкама ў верасні 2014 г. было настолькі бязглуздым, што не прайшло экспертызу ў Брэсцкім аблвыканкаме: райвыканкам устанаўліваў, што ён паведамляе міліцыі пра паступленне заявы на пікет, але адначасова патрабаваў ад заяўнікаў падачу разам з заявай копію дамовы з міліцыяй.

**spring96.org**

# Жыхары Дзяржынска адстаялі свае дамы

Марат ГАРАВЫ

**Жыхары райцэнтра Дзяржынск, што на Міншчыне, абаранілі прыватную забудову па вуліцы Першай Ленінскай.**

Дзяржынцы выступілі супраць запланаванага да 2020 года зносу сядзібнай забудовы на вуліцы Першай Ленінскай, дзе знаходзіцца 67 прыватных домаўладанняў.

Гэтае пытанне разглядалася з 31 сакавіка па 24 красавіка падчас грамадскага абмеркавання генеральнага плана Дзяржынска, як горада-спадарожніка сталіцы, якім прадугледжвалася «рэканструкцыя пад жылую шматкватэрную забудову» шэрагу вуліц райцэнтру, у тым ліку і Першай Ленінскай.

Аўтары праекту з КУП «Маладзечнапраект» матывавалі запланаваны знос сядзібнай забудовы неабходнасцю рассялення жыхароў сталіцы ў гарады-спадарожнікі Мінска, у тым ліку і ў Дзяржынск, а таксама тым, што вуліца Першая Ленінская непрыгожая і забудаваная, у асноўным, старымі драўлянымі трухлявымі дамамі. Дарэчы, з гэтымі доказамі цяжка пагадзіцца, бо вуліца Першая Ленінская даволі ўтульная: шырокая, зялёная, заасфальтаваная і мае ходнікі, а дамы на ёй амаль усе добра дагледжаныя. Аднак чыноўнікі палічылі, што ўсе дамы на гэтай вуліцы — трухлявыя, і ступень іх зносу незалежна ад года будаўніцтва вызначылі ў 65 адсоткаў.

Пры гэтым жыхарам Першай Ленінскай ніхто так і не даў адказ на галоўнае пытанне: дзе ж яны будуць жыць пасля зносу іх домаўладанняў? А паколькі людзі не змаглі атрымаць дакладны адказ на гэтае важнае пытанне, дык скарысталіся чуткамі, з якіх вынікае, што гараджанаў могуць перасяліць у пасёлак Энергетыкаў ці ў цэнтр сельсавету, вёску Станькава (абодва ў Дзяржынскім раёне).

На Першай Ленінскай жыве шмат людзей сталага веку, якіх нельга зрываць з месца. У кожнага гаспадара — невялікі прысядзібны кавалак зямлі з гародам, дзе вырошчваецца экалагічна чыстая садавіна, гародніна і зеляніна. А заробкі і пенсіі жыхароў вуліцы не настолькі вялікія, каб усё гэта купляць на рынку. Апроч таго, дзеці і ўнукі гаспадароў сядзібаў не лайдачаць, а працуюць разам са старэйшымі на сваёй зямлі.

Для абароны сваіх маёмасных правоў жыхары Першай Ленінскай пры падтрымцы актывістаў грамадскай ініцыятывы «Еўраперспектыва» Дзяніса Кобрусева і Віктара Яўмененкі сабралі подпісы пад зваротамі да дэпутатаў розных узроўняў і да старшыні Мінскага аблвыканкама. Гараджане зразумелі, што калі самі не будуць настойліва і сістэматычна абараняць свае правы, іх ніхто не абароніць.

І прыйшла першая перамога. Улады прыслухаліся да зваротаў грамадзянаў і падчас правядзення вынікаў грамадскага абмеркавання камісія прапанавала рэканструкцыю вуліцы змяніць на яе мадэрнізацыю, што дазваляе не толькі захаваць сядзібную забудову на Першай Ленінскай, але і ўдасканаліць яе знешні выгляд.

Пасля карэкціроўкі дэталёвай планіроўкі вуліцы Першай Ленінскай праект мусіць быць зноў прадстаўлены на грамадскае абмеркаванне. І грамадзянам трэба ўважліва сачыць за тым, каб спраўдзіліся абяцанні ўладаў наконт працягу грамадскага абмеркавання.

# Дапамогі на ўсіх не хапае

**Валанцёры Праваабарончай гуманітарнай місіі ва Украіне сумесна з арганізацыяй «Станцыя Харкаў» заклікаюць грамадскія арганізацыі ды актывістаў далучыцца да кампаніі па дапамозе перасяленцам з зоны АТО.**

«У Харкаўскай вобласці вельмі шмат перасяленцаў. Яны жывуць як у самім горадзе Харкаве, так і ў менш буйных гарадах: Ізюм, Мерэфа і іншых», — адзначае каардынатар місіі Зміцер Салаўёў.

Па афіцыйных звестках, колькасць перасяленцаў у Харкаве — больш за 100 тысяч, але, паводле ацэнак некаторых журналістаў, яна ў некалькі разоў большая. Гэта звязана з тым, што шмат хто з перасяленцаў не праходзіў рэгістрацыю, прыехаў да родных ці ўладкаваўся на працу. Тым больш, некаторым людзям прасцей вырашыць свае праблемы самім, бо падтрымка ад дабрачынных арганізацый і ініцыятыў сапраўды мінімальная.

Беларускія валанцёры распавялі, што арганізацыя «Станцыя Харкаў» робіць праграму ваўчарызацыі — апытанне тых перасяленцаў, якія знаходзяцца ў найбольш бядотным стане. Гэта ў першую чаргу сем'і з малымі дзецьмі, інваліды, сем'і, дзе ніхто не працуе. Пасля плануецца выдаваць карткі на бясплатнае атрыманне прадуктаў і рэчаў першай неабходнасці ў спецыялізаваных крамах.

«Найбольш запатрабаваныя рэчы — дзіцячыя. Сярод перасяленцаў — сотні маленькіх дзяцей і сотні жанчын, якія хутка народзяць, таму дзіцячая бялізна, вазкі, памперсы вельмі патрэбныя», — кажа Зміцер Салаўёў.

Поўную інфармацыю аб патрэбах перасяленцаў з зоны АТО можна знайсці на сайце арганізацыі «Станцыя Харкаў».

**spring96.org**

# Пішыце Бандарэнку!

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Ад палітвязня, былога лідара праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» Андрэя Бандарэнкі дайшоў чарговы ліст з камеры, дзе раней сядзеў Мікола Статкевіч.**



Бандарэнка зазначае, што амністыя да 70-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне яго абмінула, і, такім чынам, сядзець яму яшчэ 1 год і 10 месяцаў. У камеры, куды яго змясцілі, лунае толькі дух Мікалая Статкевіча. Ва ўсім астатнім — адны «страты»: слабое асвятленне, дрэнная вентыляцыя, недахоп прасторы. Памер камеры ўсяго 7 квадратных метраў, і ў ёй, акрамя нараў, санвузел, шафа, стол і два месцы для сядзення вышынёй 20 см. «У выніку такога сядзення даводзіцца каленкамі ўпірацца ў стол і хутка стамляецца спіна», — зазначае Бандарэнка.

Але палітвязень не падае духам. У сваім лісце ён зазначыў, што рэгулярна атрымлівае «Новы час», і нават хацеў бы арганізаваць нейкую зваротную сувязь з чытачамі газеты, якая друкуе нататкі аб яго турэмных буднях. Ён гатовы адказваць на любыя пытанні, якія прыйдуць «з волі».

Такім чынам, паважаныя чытачы, задавайце Андрэю Бандарэнку пытанні пра яго самога, пра нашу турэмную сістэму, пра магчымыя шляхі яе мадэрнізацыі.

***Адрас вязня:** 213004, Магілёўская вобласць, г. Шклоў, вул. 1. Заводская, ВК-17. Бандарэнку Андрэю Валер'евічу.*

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Я табе не веру!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Крызіс ідэй ва ўладзе адчуваецца даволі моцна. Гэта тычыцца не толькі эканомікі. Па звыклым шляху ідзе ў гэтай краіне ўсё, аж да прэзідэнцкіх выбараў.**




Вось і зараз старшыня ЦВК Беларусі спадарыня Ярмошына прапанавала новую дату прэзідэнцкіх выбараў. Нагадаем, што па законе яны павінны прайсці не пазней за 20 лістапада. Таму раней Лідзія Міхайлаўна называла найбольш верагоднай датай іх правядзення 15 лістапада.

Аднак зараз яна змяніла сваё меркаванне і прапанавала прызначыць іх на месяц раней — на 11 кастрычніка. Гэтая прапанова таксама ў межах закону, але яна, скажам так, «стандартна несумленная».

Стандартная таму, што ўжо не першы раз выбары ў нас праходзяць раней за запланаваны тэрмін. Узгадайма хаця б кампанію 2006 года, калі пасля абрання адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмсіл Аляксандра Мілінкевіча ўлады таксама вырашылі правесці выбары раней, скараціўшы такім чынам час на яго раскрутку. Несумленная, таму што ў нармальных краінах людзі за год-два ведаюць дату прэзідэнцкіх выбараў, а ў нас яна плавае, як курс долара апошнім часам.

Аднак самае цікавае ў гэтым — аргументацыя Лідзіі Ярмошынай. Маўляў, калі выбары праводзіць 15 лістапада, то для іх прызначэння давядзецца збіраць пазачарговую сесію парламента. Калі ж іх прызначаць на 11 кастрычніка, то гэтага рабіць не спатрэбіцца. «Парламент, працуючы цяпер, да свайго сыходу на канікулы, можа абвясціць гэту выбарчую кампанію», — паведаміла Ярмошына. І дадала, што звернецца ў парламент з просьбай прызначыць дату правядзення выбараў 30 чэрвеня, у апошні дзень работы сесіі.

Бедныя народныя абраннікі! Яны перапрацавалі і стаміліся так, што нават Ярмошына іх пашкадавала, даючы магчымасць адпачыць. Пэўна, глабальных высілкаў ад іх запатрабавала згода і «прыняцце да ведама» дэкрэта «аб дармаедстве». Парламентары, бачна, надарваліся, асэнсоўваючы гэтую праблему. Таму ім трэба маштабны адпачынак.

Хаця я б, на месцы парламентароў, у свае акругі не спяшаўся. Там іх, як мінімум, запытаюцца, а што гэта было з дэкрэтам? А як максімум, дармаеды збяруцца разам і фізічна патлумачаць дэпутату, што яму трэба абараняць сваіх выбаршчыкаў, а не «прымаць да ведама» невядома што.

Можна, канешне, і не думаць кепскае пра Лідзію Міхайлаўну. Можна ўявіць, што яна клапоціцца пра беларускі бюджэт. Адкліканне дэпутатаў з адпачынку на пазачарговую сесію ўляціць падаткаплатнікам у капейчыну: гэта ж кожнага давязі ў Мінск і назад, забяспеч пражыванне і харчаванне… Аднак, калі на выбары выдзяляецца каля $10 мільёнаў, а прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта сёлета будуць весці кампанію выключна за свае грошы, то дзеля сумленнасці можна было б звазіць дэпутатаў і за кошт ЦВК.

Пра сумленнасць казаў на сустрэчы з Ярмошынай і Аляксандр Рыгоравіч. Ён нагадаў, што ў канцы 2014 года было шмат меркаванняў аб датэрміновым правядзенні прэзідэнцкіх выбараў. «Гэтага ў канцы мінулага года было шмат: Лукашэнка правядзе выбары ў лютым, сакавіку, пакуль тут не наступілі горшыя часы, скарыстае сітуацыю ва Украіне і гэтак далей. Я тады сказаў, што мы сумленна правядзем гэтыя прэзідэнцкія выбары і ў тэрмін. Мы гэтае слова трымаем», — цытуе Лукашэнку БелТА.

> **10**
> **мільёнаў долараў выдзяляецца сёлета на кампанію па выбарах прэзідэнта**

Лукашэнка зазначыў, што прапановы па даце правядзення выбараў павінен выказаць ЦВК, а канчатковае рашэнне будзе прымаць парламент. «Каб потым нас не папракалі па дробязях. Я не хачу ў белых пальчатках паўстаць перад народам. Вядома, мы разам будзем абмяркоўваць, калі мы правядзем гэтыя прэзідэнцкія выбары. Але ўсё будзе дастойна і паводле Канстытуцыі», — падкрэсліў ён.

Выбачайце, але і гэта не зусім сумленна. Па-першае, калі будзе прынятая прапанова Ярмошынай наконт 11 кастрычніка, гэта ўсё роўна — датэрміновыя выбары. І не важна, на паўгады яны датэрміновыя альбо на месяц. Па-другое, наконт таго, што «канчатковае рашэнне будзе прымаць парламент». Ну скажыце шчыра, якому чалавеку даспадобы, калі яго выдзернуць на працу з законнага адпачынку? Парламентары — таксама людзі, і ім таксама гэта не падабаецца. Таму яны будуць проста радыя закончыць сваю працу так, каб іх больш не тузалі і не выцягвалі з пляжаў ды гародаў. Прызначэнне выбараў напрыканцы сесіі, каб больш да гэтага пытання не вяртацца (а значыць, на 11 кастрычніка), — цалкам у іх інтарэсах.

Увогуле, невядома чаму раптам спатрэбіўся такі «ход канём» са зменай даты выбараў. Сапраўды, інакш як клопатам пра стомленых народных абраннікаў гэта патлумачыць немагчыма. Апазіцыі перасоўванне дня галасавання ніякіх нязручнасцяў не зробіць. Найперш таму, што ўсе выдатна разумеюць, што ў нас за выбары, і збольшага дэмакратычныя вылучэнцы ідуць у прэзідэнцкую кампанію далёка не за перамогай.

Тыя ж, хто рэальна збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі альбо ідзе на выбары дзеля «папулярызацыі сваіх ідэяў», працу з электаратам пачалі нават не сёння. Прэтэндэнтка «Народнага рэферэндуму» Таццяна Караткевіч як ездзіла па рэгіёнах у якасці каардынатара «НР», так і працягвае ездзіць. Анатоль Лябедзька раздае Антыкарупцыйную праграму і праграму стварэння новых працоўных месцаў у цягніку «Мінск — Вільня», і даехаў з ёю аж да Гродзенскай вобласці. Распачынае паездкі па рэгіёнах «дармаед у дэкрэце» Юрый Шульган, у сувязі з чым пераносіць свой «дармаедскі з'езд» на канец лета. Карацей, хто жадае працаваць, той працуе і без афіцыйнага абвяшчэння выбараў. А таму, хто не жадае, ніякая дата выбараў не дапаможа, хоць на Новы год іх прызначай.

Усё гэта я да чаго? Да таго, што дэмакратыя і дэмакратычныя выбары трымаюцца, перш за ўсё, на даверы. Калі мы давяраем тым, хто выбары праводзіць, калі мы лічым гэтых людзей сумленнымі, то мы лічым і выбары сумленнымі, празрыстымі і справядлівымі. А калі пачынаюцца такія несумленныя гульні з датай выбараў, з сумнеўнай аргументацыяй, са змяненнем тэрмінаў кампаніі, то ні пра які давер да іх казаць не выпадае.

Праўда, даверу да гэтай каманды, якая штораз малюе «элегантную перамогу», і так небагата. Але незразумелыя змены ў апошні момант перад пачаткам выбараў напагатоў зводзяць гэты давер у мінус.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Мікалай Дзядок

**Рэпрэсіі ў дачыненні да палітвязня працягваюцца.**

Мікалая Дзядка ў чарговы раз змясцілі ў штрафны ізалятар за «адмову ад працы».

Раней паведамлялася, што палітвязня перавялі ў атрад і накіравалі на працу. «Гэта так, — пацвердзіла жонка Дзядка Валерыя Хоціна. — Але цяпер ён зноў у ШІЗА. Маці тэлефанавала ў калонію, і там ёй сказалі, што яго пакаралі за адмову ад працы. Але ці сапраўды за адмову працаваць, мне невядома. У шклоўскай калоніі ён адмаўляўся працаваць, але не зусім, а толькі працаваць па суботах, звыш нормы».

Мікалая Дзядка 12 мая перавялі ў новае месца адбыцця пакарання — у калонію №9 у Горках. А ўжо на другі дзень, 13 мая, ён быў змешчаны ў штрафны ізалятар, дзе правёў 5 сутак. Літаральна праз дзень, 19 мая, яго зноў накіравалі ў штрафны ізалятар. З-за вельмі нізкай тэмпературы Дзядок пакутаваў усю ноч, прасіў аб пераводзе ў іншае памяшканне. Раніцай 20 мая Дзядок нанёс сабе рэзаныя раны жывата і рук, пасля чаго быў змешчаны ў медсанчастку. Пасля аказання першай медыцынскай дапамогі, Дзядка зноў накіравалі ў той жа халоднае памяшканне ШІЗА, дзе ён і знаходзіўся да 26 мая.

Мікалай Дзядок адбыў 4,5 гады зняволення за нібыта хуліганскія дзеянні ў дачыненні да афіцыйных будынкаў і павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка 2015 года. Аднак 26 лютага суд Ленінскага раёна Магілёва асудзіў палітвязня па артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы» да 1 года зняволення ў калоніі строгага рэжыму. 30 красавіка суд касацыйнай інстанцыі пакінуў гэтае рашэнне ў сіле.

## Мікалай Ладуцька

**Былы мэр Мінска зноў пры справе. Ён прызначаны дырэктарам завода «Мотавела».**



Па некаторых дадзеных, уладальніка «Мотавела» Аляксандра Мураўёва затрымалі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Па інфармацыі знаёмых бізнесмена, увечары ў сераду, 3 чэрвеня, Мураўёў збіраўся ляцець у Вену, аднак у аэрапорце на яго надзелі кайданкі. Разам з ім за кратамі апынуліся два родных браты, Сяргей і Андрэй, а таксама некалькі партнёраў.

«Нам ужо прадставілі новага дырэктара — Ладуцьку Мікалая Аляксандравіча, былога мэра Мінска. Пра затрыманне ўладальніка нашага прадпрыемства ніхто нічога не кажа, самі чытаем у інтэрнэце. Што тычыцца Мураўёва, то мы яго самі рэдка бачылі, апошні раз у офісе з'яўляўся месяц таму», — распавялі журналістам супрацоўнікі завода «Мотавела».

Інтэрнэт ужо адрэагаваў на прызначэнне Ладуцькі жартачкамі. Адразу пайшоў анекдот: "Ладуцька, ты Мінскам кіраваў? — Аляксандр Рыгоравіч, вы ж самі мяне мэрам прызначалі! — Ды я пра матацыкл «Мінск»…



## Віктар Ганчарэнка

**Знакаміты беларускі трэнер прызнаўся ў тым, што з'яўляецца «дармаедам» і гатовы плаціць адпаведны падатак.**

«Пакуль ніхто не плаціць. Але, калі я трапляю пад гэты закон, то выбару ў мяне няма», — сказаў Ганчарэнка ў праграме «Час футбола» на канале «Беларусь-5».

Дэкрэт аб «дармаедстве» быў падпісаны Лукашэнкам толькі вясной, але ўступіў у дзеянне з 1 студзеня 2015 года. Згодна з дэкрэтам, усе, хто афіцыйна нідзе не працаваў 183 дні і больш на працягу года, абавязаны заплаціць падатак на «дармаедства». Праўда, у Ганчарэнкі яшчэ ёсць шанец пазбегнуць яго выплаты: пытанне аб ягоным працаўладкаванні можа вырашыцца на гэтым тыдні.

Нагадаем, былы трэнер БАТЭ быў звольнены з пасады галоўнага трэнера краснадарскай «Кубані» ў лістападзе 2014 года і да гэтага часу афіцыйна нідзе не працуе. У цяперашні час беларус разглядаецца адным з кандыдатаў на пасаду галоўнага трэнера ў маскоўскім «Спартаку». Сам Ганчарэнка пра варыянты працаўладкавання лічыць за лепшае не распаўсюджвацца, аднак у некаторых інтэрв'ю не выключыў, што пры пэўных умовах гатовы вярнуцца ў Краснадар.

а | Азбука паліталогіі

# Вынаходнікі пагроз



Сяргей НІКАЛЮК

**Сталінізм перамог у вайне, але прайграў па ўсіх пунктах «мірнага спаборніцтва дзвюх сістэм».**

Шляхі Божыя неспазнаныя. Два расійскія гісторыкі, два сааўтары тэорыі «Рускай улады», без якой сёння немагчыма разуменне месца расійскай цывілізацыі ў сучасным свеце, апынуліся па розныя бакі ідэалагічнай барыкады.

Прывяду дзве цытаты.

«У Кіеве стаіць помнік Магдэбургскаму праву, а вось у Маскве — Лобнае месца, дзе стагоддзямі каралі смерцю людзей. Задумайцеся пра гэта, любыя сучаснікі! Таму што сёння ў цэнтры нашай Радзімы ляжыць забойца сярод сваіх вучняў-нягоднікаў, а крыху воддаль ад іх «вечная памяць» смяротнаму месцу» (Піваварай).

«Сёння можна сказаць, што Вялікая Айчынная вайна і наша Перамога ў ёй — цэнтральная падзея не толькі савецкай, але і рускай гісторыі: у 1941–1945 гадах рускі народ, выкарыстоўваючы ў якасці шчыта і мяча савецкі лад, сталінскую сістэму, абараніў сваё права не проста на быццё ў гісторыі, а на веліч» (Фурсаў).

## «Усё для фронту, усё для перамогі!»

З тым, што перамога ў Вялікай Айчыннай вайне з'яўляецца падзеяй XX стагоддзя, якой можна ганарыцца ў найбольшай ступені, у чэрвені 2013 года пагадзілася 78% беларусаў (НІСЭПД). Здабыццё дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 годзе апынулася на другім месцы і з вялікім адставаннем — 40%.

Паводле Фурсава, у вайне перамог народ, арганізаваны ў савецкую (сталінскую) сістэму. Народ па-за дзяржаўнай сістэмаў — натоўп, і не больш за тое. «У вайне СССР прадэманстраваў сілу і моц здаровай сацыяльнай сістэмы. У гэтым — прынцыповае адрозненне СССР ад царскай Расіі другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя».

З апошнім сцвярджэннем цяжка спрачацца. У 1915–1916 гадах быў выбіты афіцэрскі корпус, разваліласяармія, а з ёй — самадзяржаўная імперыя. У 1941 афіцэрскі корпус панёс больш адчувальныя страты, мільёны чырвонаармейцаў апынуліся ў палоне. Але дзяржава выстаяла.

Сталінская сістэма аказалася мацнейшай за гітлераўскую. Яна за час вайны выпрацавала тэхніку і ўзбраенняў у два разы больш, чым Германія, хоць і страціла да пачатку 1942 года 42% насельніцтва, 47% пасяўных плошчаў, 30% прамысловай вытворчасці.

Мабілізацыйны прынцып «усё для фронту, усё для перамогі!» у самыя кароткія тэрміны быў арганізаваны ў маштабах, якіх не ведала гісторыя. 11-гадзінны працоўны дзень, абавязковыя звышурочныя, нармаванне харчавання (карткі для 62 мільёнаў чалавек). Што магла гэтаму супрацьпаставіць Германія?

Звернемся да кнігі «Успаміны» рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў Альберта Шпеера: «Адной з самых дзіўных з'яваў вайны застаецца той факт, што Гітлер імкнуўся засцерагчы свой народ ад нягодаў. <…> Для папярэджвання незадаволенасці выдаткоўваліся большыя, чым у дэмакратычных краінах, сродкі — на забеспячэнне насельніцтва спажывецкімі таварамі, на ваенныя пенсіі або на пенсіі ўдовам загінуўшых на фронце мужчын».

Заклікі Гебельса да «татальнай вайны» не спрыялі набліжэнню да сталінскага ўзроўню мабілізацыі працоўных рэсурсаў. «Ева Браўн, якая звычайна трымалася ў цяню, падключыла Гітлера, калі даведвалася пра магчымыя забароны перманенту і спыненне выпуску касметычнай прадукцыі».

## Выжыванне vs. самавыяўленне

У мяне няма падстаў сумнявацца ў тым, што сталінская сістэма аказалася мацнейшай за гітлераўскую. Бацька маёй першай жонкі атрымаў баявое хрышчэнне пад Масквой у складзе загараджальнага атрада. Пра вайну ён распавядаць не любіў. Дый што тут распавядаць...

Але ўздымемся з бытавога ўзроўню, зафіксаванага ў сямейным альбоме, да ўзроўню азбукавых культуралагічных і паліталагічных ісцін. Паводле даследаванняў амерыканскага сацыёлага Рональда Інглхарта, што было праведзенае ў рамках праекта «World Values Survey», усходнееўрапейскія краіны ўтвараюць устойлівы кластар, у якім пераважаюць каштоўнасці выжывання над каштоўнасцямі самавыяўлення.

У такой структуры каштоўнасцяў маецца свая «крэдытная гісторыя». Яна сфармаваная, па-першае, геаграфіяй. Нашы продкі жылі ў зоне рызыкоўнага земляробства, калі замаразкі маглі здарацца яшчэ ў чэрвені або ў жніўні. Па-другое, пастаянны ціск стэпу. Пра Расію не кажу. Але і тэрыторыя, на якой размешчана сучасная Беларусь, яго зведала. Невыпадкова цяперашні Дзяржынск — гэта Койданава. Тут у 1249 годзе ў бітве з войскамі князя Міндоўга быў забіты татарскі хан Койдан.

Высокі ўзровень рызыкі не дазваляў выжыць асобнаму сялянскаму падворку. Адсюль абшчына з яе абмежаваннем асабістага інтарэсу дзеля інтарэсу агульнага. Адгэтуль жа і нязвітасць пачуцця асабістай уласнасці. Каштоўнасці выжывання ў процівагу каштоўнасцям самавыяўлення вельмі моцна прапісаныя ў нашай гісторыі, гэта архетып нашай палітычнай свядомасці.

Таму не варта здзіўляцца, што на пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча большасць беларусаў адказвае не павышэннем палітычнай актыўнасці, а зніжэннем узроўню спажывання (негатыўная адаптацыя).




Якія з усяго вышэйсказанага варта зрабіць высновы? Пагрозы з'яўляюцца сістэмаўтваральным элементам дзяржаўнасці ў межах расійскай цывілізацыі. Калі па нейкіх прычынах пагрозы слабеюць па знешнім перыметры, дык элітныя групы ўнутры дзяржавы пачынаюць іх генераваць.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Дастаткова паглядзець на Расію. Ніколі яшчэ ў яе найноўшай гісторыі ўзровень негатыўных пачуццяў сярод расіян да ЗША не дасягаў такіх высокіх значэнняў. Важна падкрэсліць выбухны характар гэтага росту. Калі ў студзені 2014 года адносіны ацэньвалі як варожыя толькі 4%, то ў верасні — 39% (Лявада-Цэнтр).

## Крэатыў ад бюракратыі

За такой дынамікай масавых фобій, спароджанай прапагандай, стаіць далёка не віртуальнае перараразмеркаванне бюджэтных патокаў. Што і з'яўляецца сапраўднай (канчатковай) мэтай ініцыятараў штодзённых «пяцівхвілінак нянавісці». Крыху афіцыйнай статыстыкі: у расходнай частцы федэральнага бюджэту РФ на 2015 год закладзены рост выдаткаў на абарону на 32,8% пры адначасовым скарачэнні выдаткаў на адукацыю на 4,7%.

А зараз самы час звярнуцца да тэорыі рэсурснай дзяржавы. На велізарным масіве гістарычных фактаў яна паказвае, што мэтай дзяржавы падобнага тыпу з'яўляецца максімальна магчымая канцэнтрацыя рэсурсаў у адзіным цэнтры з мэтай іх далейшага пераразмеркавання. Г. зн. дзяржава выступае ў якасці аднаго вялікага ўласніка. Пры гэтым паміж рознымі бюракратычнымі структурамі фармуецца адміністрацыйны рынак, на якім і ажыццяўляецца гандаль за права пераразмяркоўваць рэсурсы.

Самы эфектыўны спосаб павелічэння сваёй долі на адміністрацыйным рынку заключаецца ў абгрунтаванні пагрозы, здольнай разбурыць дзяржаву. «Чым вышэй ранг пагрозы, — сцвярджае сацыёлаг Сімон Кардонскі, — тым яна больш небяспечная, і тым большую частку абмежаваных рэсурсаў неабходна вылучыць якой-небудзь арганізацыі для нейтралізацыі гэтай пагрозы. Чым большы аб'ём засвоеных пры нейтралізацыі пагрозы рэсурсаў, тым вышэй статус арганізацыі ў дзяржаўнай іерархіі».

На вынаходніцтва новых пагроз і накіравана жывая творчасць бюракратычных мас. І ў гэтым сэнсе айчынныя бюракраты здольныя даць фору любым сваім заходнім калегам. Праблема, аднак, заключаецца ў тым, што ўвесь аб'ём жывой творчасці накіраваны не на стварэнне новых рэсурсаў, а на пераразмеркаванне ўжо наяўных.

Падзеі 19 снежня 2010 года, вынікам якіх стаў аборт (перапыненне) палітыкі лібералізацыі ў Беларусі, — прыклад крэатыўных здольнасцяў «людзей у пагонах». Ухіл у бок эканомікі адсоўваў іх на другія ролі пры размеркаванні рэсурсаў, і гэты ўхіл быў выпраўлены за сем з паловай хвілін. Столькі часу, па словах адзінага палітыка, спатрэбілася АМАПу для вызвалення плошчы Незалежнасці ад пратэстоўцаў.

Контрудар з боку эканамічнага блока не прымусіў сябе доўга чакаць. Яго лёгка разглядзець у курсе на мадэрнізацыю дзяржаўных прадпрыемстваў. Мільярды еўра пацяклі праз рукі тых, хто распрацоўваў і зацвярджаў бізнес-планы, узводзіў новыя вытворчыя карпусы і закупляў імпартнае абсталяванне.

Вынікам гэтай актыўнасці стала заканчэнне этапу росту даходаў насельніцтва ў найноўшай гісторыі Беларусі. Бо мадэрнізацыя пад кіраўніцтвам спецыялістаў па пераразмеркаванні рэсурсаў мела сваім вынікам выключна страты.

## Трагедыя цывілізацыйнага маштабу

Калі пагрозы з'яўляюцца сістэмаўтваральным элементам дзяржаўнасці, то натуральным чынам адпрацоўваюцца механізмы мабілізацыі. Гэтыя механізмы несумяшчальныя з рынкавай эканомікай і дэмакратыяй. Вось чаму саслабленая дзесяцігоддзямі ліберальных рэформаў Расійская імперыя не вытрымала нягод сусветнай вайны.

Яе правапераемніцу (савецкую імперыю) можна западозрыць у чым заўгодна, толькі не ў схільнасці да лібералізму. Матэрыяльнае становішча простага чалавека ў гады сталінскіх пяцігодак значна пагоршылася ў параўнанні з даваенным часам. Па прызнанні маёй матулі, якой днямі споўніцца 94 гады, пасля згортвання нэпа ў 1929 годзе ў наступны раз яна ўволю паела толькі ў канцы саракавых гадоў. І што, няўжо гэта стварыла пагрозу стабільнасці дзяржавы?

Сталінізм перамог у вайне. Гэтую выснову ідэалагічна чужога мне гісторыка Фурсава я падзяляю. Але сталінізм і яго наступныя больш мяккія клоны прайгралі па ўсіх пунктах «мірнае спаборніцтва дзвюх сістэм».

Як рыба, выкінутая на бераг са звыклага асяроддзя, сталінізм губляе сваю эфектыўнасць, апынуўшыся па-за межамі надзвычайнай сітуацыі. Таму што яго аснову складае не Сталін, а асаблівы масавы тып чалавека, не прыстасаваны да жыцця ў свеце асабістай адказнасці.

У такі свет чалавека выштурхвае рынак. Натуральна, ён супраціўляецца. Нагодай для падзей 1917 года паслужыла вайна, прычынай — ліберальныя рэформы, накіраваныя на дэмантаж абшчыны. У 1994 годзе гісторыя паўтарылася.

Здабыўшы апору ў сталінізме, антырынкавай тып чалавека падоўжыў сваё існаванне ў гісторыі на 73 гады. Ацалеў ён і ў пачатку 1990-х, стаіўшыся, нібы той рак-пустэльнік у ракавіне беларускай мадэлі. Але час яго мінуў. Гэта трагедыя цывілізацыйнага маштабу. І ўсе мы яе актыўныя ўдзельнікі.

# Дыялог у адны вароты

Сяргей ПУЛЬША

**Палітычная сесія Кангрэсу за незалежнасць Беларусі, якая адбылася ў офісе Партыі БНФ, «вынесла мозг» некаторым сталым барацьбітам за дэмакратыю. Тым, хто забыўся, што дэмакратыя — гэта дыялог.**




Аляксандр Мех: Хто запрасіў сюды вунь тых людзей?




Алег Трусаў: А інакш прыйдзе старэйшы брат з Усходу з дубцом і ўсіх памірыць

Спачатку здавалася, што ўсё пройдзе як звычайна — сабраліся, паразмаўлялі, разышліся. Аднак нечакана ў залю ўвайшлі спартовага выгляду хлопцы. На пасяджэнне прыйшлі сябры Ліберальна-дэмакратычнай партыі на чале з намеснікам старшыні Алегам Гайдукевічам.

Праўда, спачатку мала хто звяртаў на іх увагу. Ну, прыйшлі, хай паслухаюць разумных людзей. Разумныя людзі — палітолагі Андрэй Фёдараў і Сяргей Ніканюк, — распавялі прысутным пра стан краіны з пункту гледжання знешняй палітыкі і грамадства. У прынцыпе, яны пацвярджалі тое, што даўно вядомае: галоўная пагроза незалежнасці сыходзіць з Расіі. А Беларусі трэба рыхтавацца да горшага.

Усё было б як звычайна сумна, калі б слова не ўзяў вядомы кобрынскі актывіст Аляксандр Мех. Менавіта ён звярнуў увагу на сябраў ЛДП, заявіўшы, што іх запрашэнне на Кангрэс не абмяркоўвалася, і рашэнне Радай Кангрэса не прымалася. І ўвогуле, як можна запрашаць у сядзібу БНФ людзей, якія падтрымлівалі Лукашэнку, а значыць, таксама вінаватыя ў пагрозе незалежнасці, якая зараз адчуваецца?

Далей у косці атрымалі ўсе. Незалежныя СМІ, аказваецца, абслугоўваюць групоўкі апазіцыі, і ўвогуле, не пра тое пішуць. Замест праблемаў эканомікі і пагрозы страты незалежнасці яны папулярызуюць фэйкавыя выбары, спіхваючы лбамі прэтэндэнтаў у прэзідэнты. Кепскі Лукашэнка — прадаў «Белтрансгаз» «Газпрому». Кепскі Захад, які ўзяў накірунак на «ціхую легалізацыю» рэжыму. Карацей, усе кепскія, адзін Мех белы і пушысты.

Камічнасці дадавала тое, што Мех быў на пасяджэнні сапраўды ў белым гарнітуры.

Варта аддаць належнае Гайдукевічу і ягонай камандзе. Пакуль Мех іх разносіў на кавалачкі, ніводзін з іх не зварухнуўся, ніхто дэманстратыўна залю не пакінуў, і нават ніводнага разу выступоўцу не перапыніў! Скандалу, на які ўціхую разлічвалі журналісты, не адбылося.

Адказнасць за «палітычную правакацыю» ўзяў на сябе Алег Трусаў. Ён нагадаў, што на Кангрэс запрашаліся ўсе: і дэмакраты, і камуністы, і прадстаўнікі ўлады. Па словах Трусава, у нас ёсць два шляхі далей. Альбо мы ўсе перасварымся, і ў нас пачнецца грамадзянская вайна, а старэйшы брат з Усходу потым прыйдзе з дубцом і нас усіх памірыць. Альбо паўтор 1991-га года, калі ў Вярхоўным савеце ўсе — і дэмакраты, і камуністы, і лібералы, — галасавалі за незалежнасць, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

Алег Гайдукевіч патлумачыў, што яго запрасілі на гэтае пасяджэнне ў якасці госця, далі магчымасць выступіць, ён гэтую магчымасць скарыстоўвае. І не трэба шукаць тут нейкіх правакацый.

Па пытанні пагрозы незалежнасці ён заявіў, што не бачыць такой пагрозы ні з Захаду, ні з Усходу. Галоўная пагроза незалежнасці Беларусі, па ягоных словах, — унутры Беларусі. Гэта найперш эканоміка і стан грамадства. Калі краіна эканамічна моцная, а грамадства кансалідаванае, то і знешніх пагрозаў для яе значна менш.

Нечаканую падтрымку Гайдукевіч атрымаў ад старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзіміра Коласа, які таксама зазначыў, што галоўная пагроза незалежнасці — знутры краіны, праз эканамічную залежнасць і кантроль над свядомасцю грамадзян. І такі кантроль, як вынікае з таго, што беларусы «на ўра» ўспрымаюць «крымнаш», ужо ўсталяваны.

Напрыканцы выступіў Уладзімір Някляеў з прапановай аб'яднаць Кангрэс за незалежнасць з рухам за незалежнасць Беларусі, які ён зараз стварае. Някляеў нагадаў, што Кангрэс ставіў сабе задачу — сабраць мільён подпісаў у абарону незалежнасці. Але пакуль што ёсць Кангрэс, і ёсць Рада Кангрэса, і няма «рук і ног» — тых, хто будзе подпісы збіраць. Някляеў і прапанаваў прырабіць Кангрэсу тыя рукі і ногі ў выглядзе ягонага руху за незалежнасць.

З гэтай прапановай не пагадзіўся «айцец-заснавальнік» Кангрэсу Алег Трусаў. Маўляў, сам Кангрэс — гэта дыскусійная пляцоўка, ён не прымае рашэнняў, нават праекты заяваў Рады Кангрэсу на ім не галасуюцца. Усе рашэнні прымае Рада Кангрэса. Сам Трусаў супраць, каб Кангрэс ператвараўся ў нейкую палітычную суполку. «Я супраць, але 16 астатніх могуць быць за», — крыху абнадзеіў Трусаў Някляева.

Такім чынам, Кангрэс — справа, канешне, добрая. Хаця б тым, што ёсць магчымасць выслухаць адзін аднаго: такіх пляцовак у Беларусі, асабліва па палітычных пытаннях, можна пералічыць па пальцах. Але тое, што Кангрэс не прымае ніякіх рашэнняў, ставіць пад сумнеў ягоную выніковасць. Заявіць на ім можна ўсё, што заўгодна. Той жа мільён подпісаў за незалежнасць — адназначна, Рада Кангрэса ў складзе 17 чалавек не збярэ ніколі. Хіба толькі пакладзе на гэтую справу ўсё жыццё.

# У нас будзе горш, чым ва Украіне

Сяргей ПУЛЬША

**Будучыня ў Беларусі даволі змрочная, але цікавая. Прынамсі, так лічаць эксперты, якія выступалі падчас палітычнай сесіі Кангрэсу за незалежнасць. Пра міжнародную сітуацыю распавёў палітычны аглядальнік Андрэй Фёдараў. Ягоны выступ мы прапануем чытачам НЧ.**




Андрэй Фёдараў: Расія проста так Беларусь не аддасць

## Аднавектарнасць застаецца

Калі казаць пра знешнюю палітыку, найперш, трэба акрэсліць кола суб'ектаў, з якімі нашая дзяржава супрацоўнічае і мусіць супрацоўнічаць. Найперш гэта нашы суседзі і шэраг міжнародных арганізацый: ААН, АБСЕ, Рада Еўропы, Еўрасаюз, NATO.

З нашых суседзяў першай з'яўляецца Расія. Гэта наш галоўны рынак і крыніца шматмільярдных датацыяў. Наш гандаль з Расіяй складае амаль палову ўсяго гандлю з замежжам. Пры гэтым у нас з ёй і галоўнае адмоўнае сальда ў гандлі. У мінулым годзе яно склала $7 мільярдаў, пры агульным адмоўным сальда $4 мільярды.

Прывязаныя мы да Расіі настолькі моцна, што я нават не ўяўляю, як нашае кіраўніцтва можа зараз гэтую прывязку спыніць, альбо хаця б памяншыць.

Украіна — таксама адзін з асноўных нашых эканамічных партнёраў (трэцяе месца па ўзаемным гандлі пасля Расіі і ЕС. — аўт.), магчымы наш галоўны хаўруснік у перспектыве. Але на сёння яна знаходзіцца ў настолькі цяжкім стане, што ніякія доўгатэрміновыя праекты з ёй будаваць нельга.

Астатніх суседзяў — Літву, Латвію, Эстонію і Польшчу, — мабыць, нельга разглядаць паасобку, бо яны ёсць сябрамі Еўрапейскага саюза і NATO. З кожнай з іх у нас ёсць пэўныя своеасаблівыя стасункі, але ў асноўным яны выконваюць тую палітыку, якую вызначаюць гэтыя арганізацыі. Эканамічную — ЕС, ваенна-палітычную — NATO.

У цэлым адносіны з Захадам, у тым ліку з ЗША, можна зараз расцэньваць як «халодны мір», нягледзячы на тыя нязначныя прыкметы пацяплення, якія з'явіліся апошнім часам.

Рада Еўропы. Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, якая туды не ўваходзіць. У ААН і АБСЕ нашая краіна з'яўляецца паўнавартасным чальцом, але ў сучасным свеце гэтыя структуры цяжка назваць вельмі ўплывовымі.

Такім чынам, можна канстатаваць, што, нягледзячы на ўсе заявы пра шматвектарнасць беларускай знешняй палітыкі, вектар у нас аднабаковы. Сапсаваныя адносіны з Захадам і занадта моцная арыентацыя на Усход. Гэта трэба папраўляць.

## Як нармалізаваць адносіны

Давайце падумаем, што будзе, калі, як кажа мой знаёмы, Віктар Карняенка, «здарылася страшнае — мы перамаглі». Да гэтай перамогі мы імкнёмся, бо іначай усе гэтыя абмеркаванні сэнсу не маюць.

Калі «мы перамаглі», то ўсе праблемы з Радай Еўропы, ААН і АБСЕ будуць вырашаныя вельмі проста. Дастаткова выканаць тое, да чаго імкнецца дэмакратычная грамадскасць Беларусі: усталяваць нармальны дэмакратычны рэжым. І тады, я думаю, Беларусь вельмі хутка апынецца ў Радзе Еўропы, пытанні з ААН і АБСЕ будуць знятыя.

Больш складана з Еўрасаюзам. Нам самім неабходна вызначыцца, ці мы будзем імкнуцца да лучыцца да яго напоўніцу, ці рабіць штосьці кшталту таго, што робяць зараз Украіна, Грузія і Малдова: падпісаць пагадненне аб асацыяцыі і пашыраць супрацоўніцтва, застаючыся ўбаку. Любы шлях будзе складаным, шматгадовым, і ніхто не дасць гарантыі, што ў самой Еўропе не адбудуцца такія змены, што яна ў значнай частцы згубіць сваю прывабнасць.

**Калі Расія будзе мець дастатковую моц — Беларусь напаткае той жа самы лёс, што і Украіну. І нават горшы**

Другі адмоўны момант, што насельніцтва нашай краіны, разбэшчанае патэрналісцкай палітыкай уладаў, пасля першых жа цяжкасцяў само адмовіцца ад незалежнай Беларусі дзеля чачавічнай поліўкі.

## Будзе горш, чым ва Украіне

Прыкладна так я б з вамі разважаў два гады таму. Сёння становішча змянілася кардынальна. Мы бачым, што зрабіла Масква з Украінай, калі тая паспрабавала крочыць насустрач аб'яднанай Еўропе. У мяне асабіста няма ніякіх сумненняў, што калі Расія на той момант, калі мы будзем рабіць той жа самы крок, будзе мець дастатковую моц — Беларусь напаткае той жа самы лёс, што і Украіну. І нават горшы.

Чаму горшы? Нам нават не дадуць дасягнуць згаданага нейтралітэту, бо гэта азначае вывад з нашай краіны расійскіх ваенных базаў.

У святле гэтага любыя рэзкія крокі будуць глыбока рызыкоўнымі. Калі па прыходзе новай улады сённяшнія знешнія абставіны збольшага захаваюцца, яе знешняя палітыка мусіць быць выключна асцярожнай дзеля дасягнення галоўнай мэты: захавання незалежнай Беларусі. Нават калі для гэтага спатрэбіцца пайсці на «здзелку з д'яблам».

TV

## 21 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Мастацкі фільм «Перакладчык».
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.45** Меладрама «Яго каханне».
**17.25** Мастацкі фільм «Доктарка».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.45** Ваенная драма «Шпіталь».
**00.15** Мастацкі фільм «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Жонкі экстрасэнсаў.
**10.35** «Фазэнда».
**11.10** Здабытак Рэспублікі.
**13.10** Шматсерыйны фільм «Маскоўская сага».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** Артэк. Дакументальны фільм.
**18.00** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Што? Дзе? Калі?
**23.10** Містэр і місіс СМІ.
**23.45** Фільм «Тайная жыццё пчол».



### СТВ

**06.05** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.15** Фільм «Практычная магія».
**10.15** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты-2».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «У чэрвені 41-га».
**15.25** Дарагая перадача.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** Фільм «Коко Шанэль».
**22.15** «Масква. Дзень і ноч».
**23.50** Фільм Фільм «У чэрвені 41-га».



### Беларусь 2

**06.55** Школа чараўніц.
**08.10** Серыял «Шчаслівыя разам».
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.20** Ваша лата.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Серыял «Мая цудоўная няня».
**13.55** Маст. фільм «Спадарыня пакаёўка».
**15.45** Царства нябеснае.
**18.00** Comedy Woman.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Рэальны свет.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Серыял «Шчаслівыя разам».
**23.35** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.

### Беларусь 3

**08.00, 12.05, 15.35, 00.10** Калейдаскоп.
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Імперыя. Пачатак». Гістарычная драма. Часткі 1-я і 2-я (Расія, 2007 г.).
**10.05** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Канстанцін Сцепанец.
**10.45** «Наперад у мінулае».
**11.10** Хіт парад «Сто песень для Беларусі».
**12.15** «Размовы пра духоўнае».
**12.25** «Таямніца душы». Князь Уладзімір. Значэнне асобы ў гісторыі.
**12.50** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм трэці «Праклён Эдварда Мунка». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**14.30** «Музеі Беларусі». Музей народнай архітэктуры і побыту.
**14.55** «Сны Сафіі Снесаравай». Дакументальны фільм пра выдатную рускую пісьменніцу і перакладчыцу.
**15.45** «Размовы пра духоўнае».
**15.55** «Узыходжанне». Драма (СССР, 1976 г.).
**17.45** «Васіль Быкаў. Франтавыя старонкі». Дакументальны фільм.
**18.15** «Культпрасвет».
**18.55** «Блаславіце жанчыну». Меладрама.
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт парад «Сто песень для Беларусі».
**22.00** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм трэці «Праклён Эдварда Мунка». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**23.35** «Культпрасвет».
**00.20** «Размовы пра духоўнае».

### Беларусь 5

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Скачкі на батуце. Фінал. Пляжны валейбол. Прамая трансляцыя.
**10.05** Сэлфі.
**10.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Стральба з пнеўматычнай вінтоўкі. Фінал. Прамая трансляцыя.
**11.40** Аўтаспорт. Чэмпіянат Усходняй Еўропы.
**12.50** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Мастацкая гімнастыка. Фінал. Акрабатыка. Веласпорт. Стральба з лука. Прамая трансляцыя.
**15.00** Лёгкая атлетыка. Камандны чэмпіянат Еўропы. Дзень другі. Прамая трансляцыя.
**19.20** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Пляжны валейбол. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.10** Тэніс. Турнір ВТА. Бірмінгем. Фінал.
**22.15** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Воднае пола. Фінал.
**23.40** Футбол. Чэмпіянат свету. U-20. Фінал.
**01.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**01.50** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Фітнес-шмітнес.
**07.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.45** Два на два (тэледыскусія): Таццяна Вадалажская і Уладзімір Дунаеў.
**08.15** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Пчолы і мёд.
**08.25** Казкі з-за акна, мультсерыял.
**08.50** Ажыятаж вакол Басі, серыял.
**09.20** Мова нанова: Крама.
**09.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.00** 54 % (публіцыстычная праграма): Калі з жанчыны робіцца старая баба?
**10.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Творчая эміграцыя: здрада ці выйсце?
**11.10** Час гонару, серыял.
**11.55** Хворыя на музыку, д/ф, 2003 г., Канада.
**12.10** Алег Бябенін: Я застануся, д/ф.
**12.25** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**13.15** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.00** Браты Клічко, д/ф.
**15.55** Блакада Ленінграда, д/ф.
**16.50** Закаханы анёл, м/ф.
**18.25** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**18.35** Зіма, сыходзь!, д/ф.
**19.55** Невядомая Беларусь: Пашпарт для беларуса, д/ф.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Касцюшка контра Сувораў.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Вінцук Вячорка.
**21.15** Провады, драма.
**23.25** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**00.20** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Віктар Малышчыц і зоры.
**00.50** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.50** Салідарныя з Беларуссю–2008, канцэрт: выступ гурта «IQ48».




# Новая Турцыя

Алег НОВІКАЎ

**Поспех курдскай Народна-дэмакратычнай партыі (HDP) на парламенцкіх выбарах у Турцыі — добрая падстава, каб распавесці пра феномен гэтай структуры і паразважаць пра яе будучыню.**

Без усялякіх шыльдаў і турыстычных указальнікаў парк Гезі з нядаўняга часу з'яўляецца знакавым для турыстаў, якія наведваюць Стамбул. Слава пра масавыя пратэсты, якія тут адбываліся, калі парк намагаліся знішчыць улады, цягне сюды мноства еўрапейцаў, асабліва моладзь. З асабістага вопыту мяркую, што большасць з іх застаецца крыху расчараванымі. Гезі — невялікі кавалак зямлі, які не паварочваецца язык назваць запаведным. Побач знаходзіцца вялізарная плошча — месца тусоўкі тынейджараў, канцавая трамвайная станцыя, выхад з метро. У дадатак апошнім часам тут шмат сірыйскіх бежанцаў, якія дадаюць парку каларыту, аднак не экалогіі.

Але факт ёсць факт. Пратэсты ў абарону Гезі — гэта эпахальная старонка сучаснай гісторыі Турцыі, рэха якіх адчуваецца дасюль. Прынамсі, без Гезі не было б сенсацыйных вынікаў апошніх парламенцкіх выбараў, якія паставілі крыж на амбіцыйных планах прэзідэнта Рэджэпа Таіпа Эрдагана пашырыць правы выканаўчай галіны за кошт кампетэнцыі парламенту. Канстытуцыйную рэформу, аднак, давядзецца адкласці ўбок, паколькі Партыя справядлівасці і развіцця (АКР) Эрдагана ўпершыню за 13 гадоў страціла абсалютную большасць у парламенце. Акрамя таго, у парламент прайшла HDP — самы паслядоўны крытык створанага рэжыму.

Хаця Народна-дэмакратычную партыю часта называюць партыяй курдаў, на самай справе гэта больш шырокі блок. Акрамя непасрэдна курдаў, туды ўваходзяць шэраг левых структур. Якраз апошнія забяспечылі HDP неабходныя для праходу ў парламент дзеяць працэнтаў.

Рэйтынг курдскай партыі ніколі ў нацыянальным маштабе не перавышаў восем працэнтаў, што, відавочна, і штурхала курдаў шукаць саюзнікаў. Патэнцыйна імі маглі быць актывісты грамадзянскіх, гендарных, экалагічных і левых ініцыятыў, якія прыхільна ставяцца да ідэі курдскай аўтаноміі плюс выступаюць супраць характэрнай для Эрдагана настальгіі па часах Асманскай імперыі.

Расклад цалкам змянілі падзеі ў Гезі, калі адбылася імклівая палітызацыя шматлікіх туркаў, якія папоўнілі ініцыятывы, звязаныя з левымі. Тут на іх і паклалі вока паліттэхнолагі курдскай партыі. Прыкладна за паўтара гады курды інтэграваліся ў склад HDP. Шмат каму не падабалася тое, што праект пачынаюць называць курдскім, аднак усё гэта кампенсавалі вынікі выбараў. У 2013 годзе на муніцыпальных выбарах HDP атрымала 6 працэнтаў. На прэзідэнцкіх выбарах 2014-га яе кандыдата падтрымалі каля 9 працэнтаў. У тым жа годзе дэпутацкая курдская група ў парламенце падтрымала HDP, што адчыніла ёй шанс стаць парламенцкай партыяй.

Парадокс праекту HDP заключаецца ў тым, што яе электаральная база і большасць яе мясцовых арганізацый знаходзяцца ў курдскіх рэгіёнах.

**Вельмі цяжка прагназаваць, ці здолее HDP сапраўды ўплываць на сістэму і, як следства, змяніць Турцыю**

Аднак сама палітычная культура ўнутры партыі характэрная для еўрапейскіх левых партый, накшталт грэчаскай SYRIZA або іспанскай «Podemos».

Напрыклад, існуе гендарны прынцып сустаршыняў — жанчыны і мужчыны. У кіраўнічых структурах абавязковая 50-працэнтная квота для жанчын і 10 працэнтаў для прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў. Дзякуючы гэтаму ўпершыню ў гісторыі Турцыі на выбарах у парламент балатаваўся турак, які адкрыта казаў, што ён гей. Таксама партыя пазіцыянуе сябе як партыя ўсіх нацменшасцяў. У яе кіраўніцтве можна сустрэць армян, цыган, грузін і іншых прадстаўнікоў нетытульнай нацыі. Паводле праграмы, арганізацыя выступае за новую канстытуцыю Турцыі, якая гарантуе курдам, алавітам і іншым этнасам правы на аўтаномію.

Такі ўнутрыпартыйны дыскурс выглядае абсалютна незвычайна, паколькі курдская культура — хутчэй сельская, чым урбаністычная. Акрамя таго, дасюль шмат хто лічыць, што курдская фракцыя HDP падтрымлівае кантакты з партызанскай групоўкай «Рабочая партыя Курдыстана» (РКК), яка вайсковымі метадамі змагаецца за курдскую дзяржаўнасць. РКК заўсёды арыентавалася на класічную ленінска-сталінскую партыйную мадэль, і цяжка зразумець, як яна дапускае анархію, якая пануе ў HDP.

Нарэшце, HDP — яўна не партыя рабоча-сялянскага класу, хаця фармальна яна выступае за ліквідацыю капіталізму і эксплуатацыі. HDP сімпатызуе гарадскі ліберальны сярэдні клас, якому падабаецца дэмакратычная празрыстая прырода праекту. Як кажа адзін з заснавальнікаў партыі Фатма Гёк (Fatma Gök), галоўная мэта HDK — «даць грамадзянам надзею на тое, што яны могуць уплываць на турэцкую палітычную сістэму». Цікава, што HDP прызнае ролю Атацюрка ў абагачэнні антыклерыкальнай думкі. Стаўленне да Атацюрка хутчэй пазітыўнае, хаця партыя прынцыпова адмовілася выяўляць дзяржаўную сімволіку на сваёй рэкламнай прадукцыі.

Як піша заходняя прэса, прыняцце курдскімі лідарамі еўрапейскіх каштоўнасцяў левай фракцыі HDP дапамагло пашырыць гэтыя ідэі ў турэцкім грамадстве, выпрацаваць у простых людзей як мінімум неагрэсіўнае ўспрыняцце наяўнасці іншага, устаноўку на грамадзянскую актыўнасць і жаданне ўплываць на сістэму. Некаторыя медыя называюць поспех HDP другой пасля Атацюрка свецкай рэвалюцыяй у Турцыі. Паводле такіх каментатараў, існуе сапраўдны шанец для станаўлення ў краіне шырокай сацыял-дэмакратычнай партыі еўрапейскага ўзору.

Аднак вельмі цяжка прагназаваць, ці здолее HDP сапраўды ўплываць на сістэму і, як следства, змяніць Турцыю, перш за ўсё з-за абсалютнай непрадказальнасці сітуацыі, якая ўзнікла пасля выбараў. Каб застацца пры ўладзе, Эрдаган мусіць заключаць кааліцыю, што пакуль не вельмі магчыма. Большасць каментатараў лічаць, што пазачарговыя выбары ў такіх умовах непазбежныя.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Маладых людзей, якія паляць цыгарэты і п'юць кока-колу на рагу цэнтральнай плошчы ў Гродне, практычна нельга адрозніць ад іх аднагодкаў дзе-небудзь у Літве, Латвіі ці Польшчы. Толькі помнік Леніну непадалёк і тыя плакаты, што засталіся пасля святкавання Дня Перамогі, нагадваюць, што гэтыя падлеткі жывуць у краіне, якая абрала іншы кірунак развіцця. «Ці моцна мы адрозніваемся ад Еўропы?» — пыталіся сустрэтыя ў Беларусі суразмоўцы і паказвалі на дагледжаныя газоны і чыстыя вуліцы. Але цяжка растлумачыць, што ўзровень жыцця ў краіне абумоўлівае не толькі тое, як яна выглядае з акна аўтамабіля, але і свабодны друк, справядлівыя суды, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, дзе карупцыя не з'яўляецца непазбежнай, і г. д.

**«Delfi» (Літва)**

Беларусь праводзіць сістэмную работу па захаванні сваёй гістарычнай спадчыны праз маштабную рэстаўрацыю замкаў Вялікага Княства Літоўскага, тым самым пазіцыянуючы сябе ў якасці вялікіх спадчыннікаў усходнееўрапейскай дзяржавы. Падобныя дзеянні Мінска ўжо цяпер выклікаюць «рэўнасць» у Вільні. Такая палітыка Беларусі, на думку літоўскага прафесара Валдаса Ракуціса, уяўляе пагрозу двухбаковым адносінам, бо нясе нацыяналістычны элемент выхавання новага пакалення ў духу: Літва — гэта нейкае непаразуменне, а Вільню трэба далучыць да Беларусі.

**«Rubaltic» (Расія)**

Выбары ў Беларусі — гэта пацвярджэнне статус-кво. Мала хто ідзе на іх у чаканні пераменаў, большасць, наадварот, імкнецца да таго, каб усё засталося па-старому. Яны выбіраюць не столькі Лукашэнку, колькі захаванне сістэмы, у якой прыстасаваліся жыць. Па сутнасці, перазаключаюць свой кантракт з уладай, сэнс якога ў тым, што яны аддалі ёй усе свае базавыя правы плюс адказнасць, а яна іх больш не кранае. Але з кожным годам выконваць кантракт усё складаней, таму што і эканоміка не працуе, і праслаўлутую стабільнасць падтрымліваць не атрымліваецца — бо яна грунтавалася на знешніх, пераважна расійскіх крыніцах рэсурсаў.

**«Главком» (Украіна)**

Расія наўрад ці ўступіць у прамую ваенную канфрантацыю з Беларуссю: Нават калі Лукашэнка паспрабуе разыграць заходнюю карту, ён ніколі не будзе прадстаўляць тую пагрозу, якая, як лічыў Пуцін, зыходзіла з Украіны. Беларусь не зможа далучыцца да Еўрапейскай супольнасці, як мінімум, у бліжэйшы час. Таму Пуціну не трэба ўводзіць войскі; у яго мноства іншых механізмаў уплыву на Лукашэнку.

**«Voice of America» (ЗША)**

Для таго, каб у краіну пацяклі заходнія тэхналогіі і інвестыцыі, вызвалення палітычных зняволеных мала — для гэтага ў краіне павінны быць праведзеныя яшчэ і структурныя рэформы, адна толькі згадка пра якія раздражняе Аляксандра Лукашэнку. Бізнесу павінны быць прадстаўлены рэальныя гарантыі, а не так, як цяпер, калі дзяржаўныя прафсаюзамі па распараджэнні прэзідэнта краіны ўлады памкнуліся ахапіць увесь прыватны бізнес. Кіраўніцтву краіны пастаянна здаецца, быццам яго хочуць «нахіліць», прычым хочуць гэтага і на Захадзе, і на Усходзе, у той час як на самай справе трансфармацыя эканамічнай і палітычнай мадэляў неабходная ў першую чаргу самой краіне, каб захаваць сваю незалежнасць, каб выжыць і каб пачаць нармальна развівацца.

**«Биржевой лидер» (Украіна)**

На працягу апошніх некалькіх месяцаў складваецца ўстойлівае ўражанне, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ўнутраная сітуацыя становіцца ўсё больш і больш напружанай, і гэта праяўляецца ў самых розных сферах грамадскага жыцця. Найбольшую занепакоенасць у дадзены момант у нас выклікае становішча палітычных зняволеных, на якіх аказваецца ўсё большы ціск. Калі казаць канкрэтна пра становішча палітычных зняволеных, то, па-першае, мы бачым, што іх колькасць не толькі не змяншаецца, а павялічваецца. Нядаўна быў асуджаны Рубцоў да чарговага тэрміну, сітуацыю можна было б назваць камічнай, калі б яна не была трагічная па сутнасці. Гэта чалавек, які выйшаў у футболцы «Лукашэнка, сыходзь», і з гэтага і пачался юрыдычная эпапея.

**«RFI» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Узбекістан. Кіно чакае рэформа

Узбекскі ўрад прадставіў праграму рэформаў айчыннага кінематографа, якая ўражае сваімі маштабамі. У кожнай вобласці Узбекістана будзе адкрыты, як мінімум, адзін кінатэатр вышэйшай катэгорыі, кінематаграфістаў пачнуць адпраўляць на вучобу і павышэнне кваліфікацыі ў вядучыя замежныя ВНУ, будзе створана адзінае прадпрыемства па продажы квіткоў, дзяржаўны фонд фільмаў і новы кінаканцэрн на базе студыі «Узбекфільм». Цікава, што сітуацыя ва ўзбекскім кіно выглядае не так ужо і кепска. Дзяржаўны канцэрн «Узбекфільм», сапраўды, паступова памірае, затое ва ўсю квітнеюць прыватныя студыі, якія здымаюць узбекскія версіі індыйскіх меладрам. Чым дзяржаве не падабаецца такая прадукцыя, цяжка сказаць. Магчыма, тым, што ў ніводнай са стужак няма хоць якога патрыятычнага і лаяльнага на адрас рэжыму пафасу. У прыватнасці, як кажуць кіначыноўнікі, за амаль 25 гадоў існавання незалежнага Узбекістана, дасюль не выканана задача, якую прэзідэнт Карымаў сфармуляваў яшчэ на пачатку 1990-х гадоў — знайсці вобраз нацыянальнага героя. Самі кіношнікі разводзяць рукамі. Па іх словах, лягчэй за ўсё стварыць адмоўны вобраз героя нашага часу, паколькі, куды ні глянь, ва ўсіх сферах жыцця краіны можна разглядзець злачынцаў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### Балканы. Хутка пачнецца вайна

Аўтарытэтнае брытанскае выданне «Financial Times» прагназуе хуткі выбух канфліктаў і лакальных войнаў на Балканах. Паводле выдання, пра гэта сведчыць серыя інцыдэнтаў апошняга часу — беспарадкі ў Македоніі, спроба тэракту з боку радыкальных ісламістаў у Босніі і сутычкі на сербска-косаўскай мяжы. Калі верыць журналістам, эканамічная дэпрэсія ў рэгіёне стварыла ўсе ўмовы для гвалтоўных пратэстаў. Пытанне ў тым, пад якім сцягам яны пачнуцца і хто атрымае ад гэтага бонусы. Перш за ўсё, ідэалогіяй бунту будзе радыкальны ісламізм, які набірае папулярнасць у Босніі. Таксама, магчыма, адраджэнне планаў баснійскіх сербаў пра выхад са складу Босніі і Герцагавіны. На апошніх зборах мясцовай вядучай сербскай партыі была прынята праграмная рэзалюцыя — правесці ў 2018 годзе плебісцыт аб выхадзе са складу Босніі. Трэцяя гарачая кропка — Косава, адкуль масава бягуць тубыльцы, што расчараваліся ў праекце мала кім прызнанай дзяржавы. Цалкам верагодна, што Албанія можа паспрабаваць прыяднаць гэты край да сябе, што справакуе канфлікт з Бялградам. Выданне мяркуе, што новы віток напружанасці на Балканах будзе на карысць Маскве і лідарам «Ісламскай дзяржавы».

**Паводле французскай прэсы**

### Фінляндыя. Імігрантаў прапануюць стэрылізаваць

Намеснік дэпутата гарадскога савета Хельсінкі ад права-папуліцскай партыі «Сапраўдныя фіны» Оле Садэміес на сваёй старонцы ў Фэйсбуку прапанаваў стэрылізаваць афрыканскіх імігрантаў, таму што ў іх «занадта шмат дзяцей». На думку палітыка-ксенафоба, колькасць дзяцей у імігрантаў трэба абмежаваць да трох на сям'ю. Кіраўніцтва «Сапраўдных фінаў» паспяшалася адрачыся ад слоў актывіста, назваўшы іх прадуктам яго «індывідуальнага мыслення». Праўда, гэта не першая падобная прапанова ад «Сапраўдных фінаў». У 2012 годзе нейкая прадстаўніца партыі выступіла з ініцыятывай пазначаць мігрантаў нарукаўнымі павязкамі і ўжываюць ім мікрачыпы. Мяркуючы па ўсім, такіх арыгінальных ініцыятыў у хуткім часе будзе шмат. З-за вайны вялізарная колькасць мігрантаў з краін Афрыкі і Блізкага Усходу спрабуюць пранікнуць у Еўропу. Толькі ў Лівіі зараз сядзяць на чамаданах каля трох мільёнаў чалавек.

**Паводле нямецкай прэсы**

### Украіна. Райсаветы ў выгнанні

Украіна павінна правесці мясцовыя выбары ў Крыме і Данбасе, сфармаваўшы райсаветы ў выгнанні. З такой ініцыятывай на старонках кіеўскага часопіса выступіла прафесар Данецкага нацыянальнага ўніверсітэта Алена Сцяжкіна. Галасаваць, на яе думку, змогуць усе грамадзяне Украіны, якія пакінулі Крым, а таксама рэзідэнты Крыму ў памежных з анексаванай тэрыторыяй украінскіх раёнах. Галоўны аргумент Сцяжкінай на карысць райсаветаў у выгнанні: «Менавіта гэтыя органы стануць паўнамоцнымі, калі Крым вернецца. А для свету яны будуць паўнамоцнымі і легітымнымі ўжо і цяпер». Выбарчая кампанія, на думку аўтара, стане ўнікальнай і прыгожай. «Уявіце, як гэта будзе прыгожа, побач са шчытом «Галасуй за дэпутата Львоўскага гарсавета» будзе вісець: «Падтрымаем кандыдата ў гарсавет Сімферопаля». Пры гэтым прафесар усё ж прызнае, што для рэалізацыі яе ініцыятывы патрэбна палітычная воля. Нагадаем, што выбары ва ўкраінскія мясцовыя органы ўлады пройдуць у кастрычніку.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Хартыя застаецца з намі

*Алег НОВІКАЎ*

**Праз 800 гадоў пасля падпісання Вялікай Хартыі Вольнасцяў брытанцы думаюць, ці варта ім і далей жыць паводле сярэднявечных нормаў.**



Галоўны кур'ёз у гісторыі з'яўлення Вялікай Хартыі Вольнасці (Magna Carta) заключаецца ў тым, што «маці ўсіх канстытуцый» (так называюць часам гэты дакумент) чалавецтва абавязанае аднаму з самых непапулярных і нелюбімых англійскіх манархаў. Гутарка пра Джона Беззямельнага. Дастаткова ўзгадаць славуты раман «Айвенга», дзе каварны кароль Джон перманентна ўстаўляе палкі ў колы высакароднаму рыцару Айвенга і яго патрону — каралю Рычарду Львінае Сэрца. Пры жыцці Джон Беззямельны меў у англійскім народзе такую кепскую рэпутацыю, што з тых часоў ніводны англійскі манарх не называў сваіх нашчадкаў гэтым імем (пасля імя Джон стала лічыцца нешчаслівым таксама для кіруючых дынастый Шатландыі і Францыі).

Так ці інакш, менавіта той Джон падпісаў 16 чэрвеня 1215 года дакумент, які стварыў юрыдычную базу пад інстытут вольных выбараў у парламент, які, у сваю чаргу, станавіўся галоўным заканадаўчым органам у краіне. З тых часоў у заканадаўстве з'явілася норма прэзумпцыі невінаватасці і прынцып недатыкальнасці асобы. Параграфы Вялікай Хартыі ўсе 800 гадоў інспіруюць дэмакратычны рух па ўсім свеце.

Тэкст Вялікай Хартыі Вольнасцяў заставаўся адносна стабільным даволі доўгі час; пры пазнейшых папраўках у яго ўносіліся толькі рэдакцыйныя змены. Аднак гэта не вытравала яго ад крытыкі. Па сутнасці, Хартыя выконвае функцыю Канстытуцыі, аднак Канстытуцыяй назваць яе немагчыма. Гэта пункты дамовы, якія размешчаныя без пэўнай сістэмы і датычацца самых розных пытанняў эпохі, што даўно прайшла. Напрыклад, там можна наткнуцца на такі пункт: «Мы вернем сына Левеліна неадкладна ж, а таксама ўсіх уэльскіх закладнікаў і граматы, якія былі выдадзеныя нам у забеспячэнне міру».

Затое ў тэксце Хартыі няма ніводнага слова пра падзел улады і фармальныя функцыі ўраду. Адсутнасць нармальнай сучаснай канстытуцыі ў Вялікабрытаніі стварыла дзіўную схему, дзе сам чорт зломіць нагу. Брытанскі асноўны закон складаецца з нормаў трох катэгорый: 1) норм статутнага права; 2) норм прэцэдэнтнага права; 3) канстытуцыйных звычаяў.



Аднак нягледзячы на ўсе недахопы існуючай сістэмы, у выніку ўсё роўна перамагалі прыхільнікі традыцыі. Іх галоўны рэзон быў просты. Нашто нешта мяняць, калі ўсё і так, быццам, някепска працуе?

Цяперашняя 800-я гадавіна падпісання тэксту Magna Carta прыйшлася на самы буйны канстытуцыйны крызіс у Вялікабрытаніі за апошнія дзесяцігоддзі. Яго асноўныя чыннікі — незалежніцкія памкненні Шатландыі плюс крызіс вакол фармату адносін Аб'яднанага Каралеўства і ЕС. Яшчэ адным каталізатарам дыскусіі вакол лёсу Хартыі сталі апошнія парламенцкія выбары, якія давялі недасканаласць мажарытарнай сістэмы, што прапісаная менавіта ў Хартыі. Напрыклад, з-за мажарытарнай сістэмы шатландцы, якія выступаюць за ўнію з Англіяй (гэта кожны другі жыхар краю), аказаліся прадстаўленыя ў парламенце толькі двума дэпутатамі.

Але праблема заключаецца ў тым, што лагер рэфарматараў нагадвае салянку. Пра неабходнасць перамен кажуць шмат, аднак не зразумелы агульны алгарытм працы над кадыфікацыяй. Падавалася, нічога цяжкага тут няма — трэба правесці канстытуцыйны сход, або хаця б стварыць пры парламенце адпаведную камісію.

«Стоп!» — кажуць на гэта шатландскія нацыяналісты, нагадваючы, што Вялікабрытанія складаецца з чатырох суб'ектаў: Паўночнай Ірландыі, Уэльсу, Шатландыі і Англіі. На іх думку, у кожным з суб'ектаў спачатку павінны быць выпрацаваны свае тэзісы адносна кантэнту будучага асноўнага закону. Пасля прадстаўнікі лакальных установчых сходаў могуць сустрэцца і скампанаваць фінальны тэкст. З такой формулай вельмі не згодныя ў Лондане, дзе разглядаюць Адзінае Каралеўства як самастойны юрыдычны суб'ект.

Ёсць абсалютна арыгінальная думка шэрагу палітолагаў, якія лічаць, што цяперашнія дэбаты наконт замены Хартыі на Канстытуцыю не маюць сэнсу, паколькі Канстытуцыі пішуцца ў часы рэвалюцый (так, дарэчы, было і з Хартыяй, якая, як вядома, з'явілася на свет як прадукт кампрамісу паміж каралём і баронамі-мяцежнікамі).

Аднак нават наяўнасць адзінага падыходу сярод рэфарматараў не значыла б, што Вялікую Хартыю можна смела запісваць у помнікі гісторыі брытанскага права. Сітуацыя ўскладняецца пазіцыяй правячага кабінета. Торы будуць да канца сабатаваць перамены. Кансерватары па выніках майскіх выбараў маюць у парламенце дэпутацкую большасць, хаця за іх прагаласавала толькі 37 працэнтаў выбаршчыкаў. Таму перспектыва адмовы ад Хартыі і, як следства, адмова ад мажарытарнай сістэмы выбараў не абяцаюць партыі Дэвіда Кэмерана нічога добрага.

Кулуарна прызнаючы бесперспектыўнасць вайны з Хартыяй, некаторыя праваабарончыя арганізацыі яшчэ да пачатку цяперашніх святкаванняў адмовіліся ад правядзення дэбатаў, заклікаўшы проста байкатаваць урачыстасці з нагоды 800-й гадавіны Хартыі.

Што тычыцца непасрэдна святочнай праграмы, то галоўныя мерапрыемствы пройдуць 15 чэрвеня ў будынку Брытанскай бібліятэкі. Тут у прысутнасці прадстаўнікоў ураду і розных высокіх госцяў адчыніцца выстава трох захаваўшыся да нашага часу асобнікаў Хартыі. Таксама будзе прадстаўлены твор аднаго з вядомых сучасных брытанскіх мастакоў на тэму нараджэння дакумента, па якому дасюль жылі і, падаецца, яшчэ доўга будуць жыць на Туманным Альбіёне.

# Да і пасля гей-прайду

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне абвастрылася і так вельмі складаная палітычная сітуацыя. Пасля няўдалай спробы сепаратыстаў прарваць фронт пад Мар'інкай, у Кіеве быў разагнаны намётавы гарадок на Майдане, а ўчорашнія саюзнікі па Майдану пасварыліся з-за тэмы правоў сексменшасцяў. Знайсці метафізічны сэнс гэтых падзей чытачам НЧ дапамагае кіеўскі палітолаг Юрый Палянін.**

***— Правы сектар заклікаў да акцыі супраць правядзення гей-прайду, які, у сваю чаргу, падтрымала ліберальная фракцыя Майдану. На блізкім да ПС сайце з'явіўся артыкул з пагрозамі на адрас усёй ліберальнай прамайданаўскай інтэлігенцыі, якую абвінавацілі ў касмапалітызме і амаралізме. Расійская прэса трактуе гэта як сіндром Талібану. Лібералы, маўляў, каб захапіць уладу, зрабілі стаўку на ўльтраправых, якія, аднак, адмовіліся быць марыянеткамі.***

— На самай справе, так званы Тыдзень роўнасці ў абарону правоў ЛГБТ праходзіць ва Украіне штогод, і перыядычна ён звяртаў на сябе ўвагу гамафобаў. Эскалацыя вакол мерапрыемства мае штучны падмурак. Групоўка Парашэнкі актыўна падтрымлівала парад, каб давесці замежнікам, што менавіта яна з'яўляецца прамоўтарам еўрапейскіх каштоўнасцяў. У сваю чаргу, Правы сектар, звязаны з алігархам Каламойскім, накачваў сабе рэйтынг за кошт папулярных сярод простых украінцаў гамафобных забабонаў. За кулісамі пазіцый стаяць інтарэсы кланаў. У сваю чаргу, апошнія падзеі сведчаць пра тое, што этап алігархічных войнаў ва Украіне працягваецца. Пасля таго, як на Майдане была разбурана створаная яшчэ пры Кучме мадэль, дзе прэзідэнт выконваў функцыі «смотрящего», новай кампраміснай для ўсіх схемы дасюль не нарадзілася.

***— Які можа быць сцэнар і вынік алігархічнай вайны?***

— Самы непрадказальны, паколькі, як давялі гей-прайд і разгон Майдана, гэта будзе разборка па абсалютна новых для Украіны правілах. Высвятляецца, што ў краіне існуе такая з'ява, як параміліарныя групоўкі, якія маюць дах ва ўладзе. Штурмавікі Каламойскага білі геяў, а штурмавікі Клічко разагналі фінансавы Майдан. Пры гэтым міліцыя не ў стане нічога ім супрацьпаставіць, паколькі ўсе пагромшчыкі выяўляюць сябе як герояў АТА, а свае ўчынкі матывуюць абаронай спадчыны рэвалюцыі годнасці. Як правіла, міліцыя не рызыкуе ўзбуджаць справы па больш суровых за «хуліганства» артыкулах, нават калі, як на тым жа гей-прайдзе, міліцыянер з раненнем у шыю ад гранаты трапіў у рэанімацыю.

Гэта праблема значна больш сур'ёзная, чым правы геяў на публічнае шэсце. Для прыкладу возьмем музей «Кіеўская крэпасць», адзін з залаў якога падчас Майдану захапіла нейкая сотня. На самай справе, гэта не сотня, а каля сарака правінцыялаў, якія нікуды ехаць са сталіцы не збіраюцца. Пытанне — чым яны займаюцца? Відавочна, што пошук хлебу надзённага таксама звязаны з нейкім крыміналам. У тым ліку праз такія групоўкі, якія маюць прававы імунітэт, зброя з зоны АТА трапляе ў тыл. Адсюль пагаршэнне крымінальнага фону ў краіне. Толькі ў Кіеўскай вобласці колькасць забойстваў за год вырасла ў сем разоў. Мы стаім напярэдадні першай фазы крымінальнай рэвалюцыі, у параўнанні з якой 1990-я гады — дзіцячы садок. Прынамсі, тады браткі не мелі гранатамётаў.

***— Увосень ва Украіне пройдуць мясцовыя выбары. Ці гэтыя параміліарныя структуры могуць паўздзейнічаць на вынікі выбараў?***

**Штурмавікі Каламойскага білі геяў, а штурмавікі Клічко разагналі фінансавы Майдан. Пры гэтым міліцыя не ў стане нічога ім супрацьпаставіць, паколькі ўсе пагромшчыкі выяўляюць сябе як герояў АТА, а свае ўчынкі матывуюць абаронай спадчыны рэвалюцыі**

— Безумоўна. Тым больш, што прэцэдэнтаў хапала і раней. На парламенцкіх выбарах тактыку запужвання выкарыстоўвалі хлопцы са «Свабоды», якія проста пагражалі сябрам выбарчай камісіі. Раней гэта рабілі Партыя рэгіёнаў з «цітушкамі». Зараз сітуацыя будзе больш складанай, паколькі канкурэнты таксама прывядуць на падлік галасоў сваіх узброеных «цітушак». Тым не менш, я б не драматызаваў сітуацыю. У Ліване таксама кожная партыя мае мілітарную фракцыю, аднак у краіне ёсць шматпартыйны парламент. Іншая справа, што ў парламенце ёсць квоты для кожнай грамады. Мяркую, што паступова неафіцыйна такая сістэма рэгіянальнага замацавання за кожным алігархам сваёй вотчыны складзецца і ў нас. Без сілавога прыкрыцця абараніць вынікі галасавання кандыдату будзе вельмі складана.

***— Ці ёсць падобная праблема на захопленай сепаратыстамі частцы Данбасу?***

— Гучнае забойства палявога камандзіра Аляксея Мазгавога сведчыць пра падабенства працэсаў. З той розніцай, што фактычна Мазгавы ўзняў бунт супраць мясцовага алігарха. Ён паспрабаваў браць працэнт з продажаў прадукцыі яго металургічнага камбінату ў Алчэўску, што, на маю думку, і стала прычынай яго ліквідацыі. Дый Масква, думаю, была не супраць такога сцэнару. Мазгавы ў свой час неяк узяў і кінуў фронт, а Крамлю патрэбна дысцыплінаванае войска, якое будзе здольнае час ад часу правакаваць Украіну. Гэта пытанне стабільнасці ўнутрыпалітычнай сістэмы ў самой РФ. Пакуль на Данбасе будзе канфлікт, у Пуціна гарантаваны завоблачны рэйтынг, а сама Украіна не ператворыцца ў плацдарм для антыпуцінскіх аперацый. Нядаўнюю, дзіўную на першы погляд атаку войскаў ДНР пад Мар'інкай я аднашу да гэтай катэгорыі рэчаў.

***— Бой пад Мар'інкай, які закончыўся адыходам сепаратыстаў, выклікаў патрыятычны ўздым ва ўкраінскім грамадстве. Савік Шустэр прысвяціў яму ледзь не цэлы блок сваёй праграмы. Ці не стане «пералом пад Мар'інкай» пралогам да спробы ўзяць рэванш за Дэбальцава і Ілавайск?***

— На ўкраінскіх каналах шмат заклікаў — даць агрэсару па зубах, аднак жадаючых узяць на сябе адказнасць за загад наступаць, не бачна. Узровень украінскага войска вырас, аднак пакуль неафіцыйна пануе думка, што без дадатковага фактару падтрымкі (напрыклад, дапамогі летальнай зброяй з ЗША), наступ захлынецца.

***— Вяртаючыся да тэмы росту ролі мілітарных груповак ва ўкраінскай палітыцы, чаму Захад глядзіць на гэта праз пальцы? Па сутнасці наяўнасць мілітарных груп парушае манаполію дзяржавы на гвалт.***

— Амерыканцы, безумоўна, жадалі б бачыць ва Украіне больш моцнага рэгіянальнага саюзніка. Аднак качаць у Кіеў рэсурсы, калі не вырашана больш важная праблема «Ісламскай дзяржавы» і Ірану, не разумна. Думаю, у Вашынгтоне зрабілі стаўку на нейкую варыяцыю мадэлі кіраванага хаосу, які не патрабуе вялікіх інвестыцый, аднак скоўвае геапалітычныя планы Крамля. Што тычыцца Еўропы, то ніхто не ведае, што збіраецца рабіць Еўропа ва Украіне. А вырашаць трэба хутка, паколькі рэшткі дамовы Мінск–2 могуць вось-вось перастаць дзейнічаць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Людвік Вацулік



На 89-м годзе жыцця памёр чэшскі пісьменнік і журналіст. Хаця амаль усё жыццё нябожчык займаўся літаратурай і публіцыстыкай, яго ўклад у чэшскую і ўвогуле сусветную палітыку вялізарны. Менавіта Вацулік напісаў тэкст «Дзве тысячы слоў», які стаў маніфестам Пражскай вясны. Хаця ў тэксце былі пасажы пра неабходнасць абараняць камуністычны рэжым сакратара кампартыі Аляксандра Дубчака, фактычна, як прызнаюць гісторыкі, гэта быў заклік да шматпартыйнай сістэмы. Дзякуючы кіраўніцтву Кампартыі «Дзве тысячы слоў» надрукавалі ўсе вядучыя газеты краіны, што зрабіла Вацуліка публічнай асобай. Натуральна, гэта яму дорага каштавала пасля інтэрвенцыі войскаў Варшаўскай дамовы. Літаратару цалкам забаранілі друкавацца. Пасля перамогі дэмакратыі Вацулік працаваў як вядучы калонкі ва ўплывовым часопісе «Reflex». Апошні раз ён прыцягнуў увагу публікі, калі заклікаў у 2008 годзе не даваць грамадзянам РФ від на сталае жыхарства ў Чэхіі, аргументуючы гэта тым, што «гэты народ небяспечны ў любой сітуацыі. Таму я не згодны з тым, каб такіх людзей да нас упускалі. Яны прыязджаюць пад дэвізам свабоды, нічога пра яе не ведаючы, прывозяць сюды свой капітал, каб зачапіцца, а калі іх тут стане шмат, яны запатрабуюць аўтаноміі. А браты з краіны прыйдуць іх ратаваць. Як у Грузіі».

### Аракел Маўсісян



У інтэрнэце з'явіўся ролік, у якім дэпутат кіруючай у Арменіі партыі заступіўся за міністра абароны краіны. Гнеў дэпутата выклікала публікацыя ў мясцовай газеце, дзе гаварылася аб дачыненні жонкі міністра да гібелі сына аднаго армянскага прадпрымальніка. Атакуючы праціўнікаў міністра, Аракел за словам у кішэню не лез: «Дай Бог, трапяцца мне, я асабіста іх абезгалоўлю. Божа барані, калі іх зловім, абавязкова згвалцім». Ці тычылася гэтая пагроза журналісткі, якая апублікавала артыкул, не ўдакладняецца. У любым выпадку, рэакцыя армянскай прэсы была жорсткай. На аматара абезгалоўліваць і гвалціць падалі ў суд. Дарэчы, камісія па этыцы пры парламенце Арменіі таксама ведае пра намер дэпутата асабіста гвалтаваць і абезгалоўліваць, але пакуль нічога не прадпрымае. Трэба сказаць, гэта не першы выпадак. У мінулым годзе таксама разглядалася пытанне аб тым, каб вынесці ацэнку выказванням Маўсісяна, які пасля галасавання па ратыфікацыі армяна-расійскіх пагадненняў выйшаў да журналістаў, якія стварылі акцыю пратэсту, і пракрычаў: «Прыбярыце адсюль гэтых малпаў». Застаецца сказаць, што ёсць думка, што Маўсісян наўмысна праваакуе публіку, паколькі армянскае парламенцкае жыццё нецікавае.

### Грэгар Гізі



67-гадовы старшыня фракцыі партыі «Левыя» ў Бундэстагу заявіў пра сыход з палітыкі і з пасады лідара фракцыі. Яго спадчына дастаткова цікавая. Будучы адвакатам у ГДР, Гізі (дарэчы, ён паходзіць з яўрэйскай сям'і, а яго бацька быў міністрам культуры) абараняў дысідэнтаў, што зрабіла яго папулярнай фігурай. Хаця ў апараце камуністаў ён быў на добрым рахунку, напрыканцы 1980-х гадоў Гізі падтрымаў перабудову. Аднак зеніт яго кар'еры прыйшоўся на часы інтэграцыі Усходняй Германіі ў склад ФРГ, калі Гізі стаў фронтменам партыі былых камуністаў. Вельмі добры трыбун і палеміст, ён упісаўся ў палітычную эліту аб'яднанай Германіі, хаця шмат хто падазраваў яго ў супрацоўніцтве са спецслужбамі ГДР. Харызма Гізі дапамагла зламаць міф пра ўсходніх камуністаў як сумных сталіністаў. З часам гэта таксама стварыла базу для альянсу часткі левых прафсаюзнікаў з Захаду і экс-камуністаў з Усходу, у выніку чаго і нарадзілася партыя «Левыя». Гізі, будучы любімчыкам публікі, дазваляў сабе дастаткова радыкальныя крокі: заклікаў даць Нобелеўскую прэмію Эдварду Сноўдэну або казаў, што дыпламатычнае прызнанне расійскай анексіі Крыму непазбежнае. Так ці інакш, яго сыход адчыняе новую старонку ў гісторыі партыі, якая апошнім часам дэманструе добрыя вынікі.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ



Стоўбцы

# Стоўбцы: паміж Захадам і Усходам

**Стоўбцы маюць багатую гісторыю. Аднак найбольшую вядомасць горад атрымаў у 1920–1930-я гады, калі стаў варотамі з буржуазнага свету ў савецкую імперыю.**



Вакзал у Стоўбцах і цягнік Парыж—Масква



Жаўнер КАП у Коласава. Сярэдзіна 1930-х гадоў

## Маякоўскі і Пушкін

У выніку польска-бальшавіцкай вайны Стоўбцы засталіся за палякамі. У 1920–1930-я гады горад, а хутчэй чыгуначная станцыя, стала вядомая ўсяму свету. Праз яе ездзілі палітыкі, дыпламаты, літаратары, інтэлігенцыя, шпіёны і звычайныя людзі. Стоўбцы сталі транзітным пунктам на шляху ў СССР. Праз гэтую чыгуначную станцыі ішоў знакаміты цягнік Парыж — Масква. Менавіта тут цягнік спыняўся, і пачынаўся польскі пашпартны кантроль. Пасля гэтага цягнік рухаўся да апошняй польскай станцыі Коласава, і там пасажыры пешшу пераходзілі мяжу. На савецкай станцыі Негарэлае яны сядалі ў савецкі цягнік. Усё з-за розніцы ў шырыні каляіны.

Звычайныя жыхары СССР «рыжскую мяжу» перасякалі рэдка, тым больш на цягніку. А вось прадстаўнікі інтэлігенцыі ездзілі на Захад часта. Адным з тых, хто неаднаразова праязджаў Стоўбцы, быў Уладзімір Маякоўскі. Вось як ён апісваў свае ўражанні ў адным з артыкулаў, датаваным 1927 годам: «Стоўбцы. Памежны пункт. Шыкоўны будынак. Белы, як быццам бы з золатам. Як адрозніваецца гэтая станцыя ад нашых брудных станцыек. Думаю, калі так пойдзе далей, — Польшча сапраўды разбагацее. [...] У цягніку з Варшавы ў Негарэлае на дзесяць вагонаў (не змяншаю) ехала чалавек сем. Побач з нашым вагонам цягнуўся адзін цалкам пусты мяккі, адзін цалкам пусты жорсткі і побач жорсткі вагон усяго з адным пасажырам. Праўда, гэта ўжо пры пад'ездзе да польска-савецкай дзяржаўнай мяжы (да Стоўбцаў, Коласава, Негарэлага). Верагодна, гэта рэдкасць, але нават для рэдкасці пасажыраў усё ж мала».

Менавіта тут, у Стоўбцах, нарадзіўся і знакаміты «Верш пра савецкі пашпарт», які пазней трапіў у савецкія школьныя падручнікі па літаратуры.

Польскія памежнікі праводзілі вельмі пільны кантроль усяго, што правозілася пасажырамі. Асаблівую ўвагу звярталі на друкаваныя матэрыялы і кнігі. Адзін савецкі інжынер у сярэдзіне 1930-х гадоў так апісваў свой досвед перасячэння мяжы: «Наш цягнік падышоў да памежнай станцыі Негарэлае. Пасля беглага агляду багажу на нашай мытні цягнік даехаў да мяжы. Вось і мяжа. Нашы памежнікі, якія правяралі пашпарты, выйшлі. Цягнік паехаў далей. Прыпынак. Першая польская станцыя Стоўбцы. Мы перайшлі ў польскія вагоны. Увайшлі разадзетыя польскія жандары. Канфедэратка (фуражка з чатырохвугольным верхам) з гербам Польшчы — вялікім аднагаловым медным арлом і вялікім казырком, акаваным меддзю, высокія боты са шпорамі і, канешне, вялікая кабура з пісталетам. Адзін з жандараў папрасіў адчыніць чамадан, у якім у мяне ляжала змена бялізны, начныя туфлі, загорнутыя ў газету, і томік вершаў Пушкіна, які я набыў на вакзале ў Негарэлым. Жандар узяў Пушкіна і сказаў на рускай мове:

— Кнігу я канфіскую. Правоз камуністычнай літаратуры ў Польшчу забаронены!

— Якая ж гэта камуністычная літаратура? Гэта ж вершы. А Пушкін памёр у 1837 годзе. Глядзіце, на вокладцы стаіць: 1799–1837, — запярэчыў я.

— Гэта маглі надрукаваць дзеля маскіроўкі, — такім быў адказ, і мой томік застаўся ў жандара».

## У краіне Саветаў

На савецкім баку дагляд быў не менш дэталёвым. Падазроным асобам нават рабілі асабістыя дагляды, пры гэтым іх уласныя рэчы і багаж скрупулёзна абшуквалі. Пазней, калі пасажыры перасаджваліся ў простыя вагоны кур'ерскага цягніка «Негарэлае—Уладзівасток», да іх падсаджваліся ўпаўнаважаныя АДПУ/НКУС і да Мінска дапытвалі. Тычылася гэта як замежнікаў, так і савецкіх грамадзян.

Вось як апісвала свае ўражанні ад прыезду ў СССР адна з пасажырак цягніка: «Польшча ўжо скончылася, Савецкі Саюз яшчэ не пачаўся. Пасля пяці дзён дарогі мы пад'ехалі да мяжы. Цягнік спыніўся ў Негарэлым. Памятаю, я пераступіла парог вакзала і ўсклікнула — у зале поўна людзей. Усе апранутыя ў лахманы, усе ляжаць на падлозе. На плошчы, ля вакзала, людзей яшчэ больш. Нейкае дзіця падняла на мяне вочы: «Хлеба». Я задрыжала. Мне трынаццаць гадоў, я прыехала з Парыжа, і вось першае, што я бачу ў краіне, дзе мне прыйдзецца жыць. Мама ў роспачы: «Не плач. Тут іншае жыццё». «Мама, мне страшна, давай вернемся». — «Ужо немагчыма. Мы перасеклі мяжу».

У кнізе «Запіскі савецкай перакладчыцы» эмігрантка Тамара Саланевіч так апісвала свае памежныя перажыванні: «Вясной 1931 года я з цяжкім пачуццём пераехала праз савецкую мяжу. Жудаснае пачуццё ахоплівае савецкага грамадзяніна, калі цягнік адыходзіць ад апошняй польскай станцыі Стоўбцы і павольна пачынае праходзіць праз памежную зону да знакамітай, пабудаванай бальшавікамі аркі, на якой напісана: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!». Сэрца сціскаецца, чалавек ідзе як на закланне, добраахвотна вяртаецца ў клетку, з якой выпадкова яму ўдалося вырвацца. Знаходзячыся ў Гандлёвым прадстаўніцтве, я кожны раз падчас пераезду мяжы не ведала, ці давядзецца мне яшчэ выехаць у вольную Еўропу. А цяпер я вярталася ў СССР, як мне здавалася, назаўсёды. Здавалася, што жыццё ўвогуле скончылася. Наколькі я ведаю, нават вядомыя камуністы вярталіся ў Савецкі Саюз з цяжкім пачуццём».

У 1930 годзе бельгійскі мастак Жорж Рэмі (Эржэ) зрабіў серыю малюнкаў пра журналіста-дэтэктыва Тэнтэна, які накіраваўся ў падарожжа ў Савецкі Саюз і перайшоў мяжу ў Стоўбцах. Пры гэтым бельгійскі карыкатурыст зрабіў невялікую памылку. Паводле Эржэ, «Стоўбцы» — гэта ўжо СССР, але ў рэчаіснасці першай савецкай станцыяй на гэтым участку мяжы было, як вядома, Негарэлае.

## Тэракты і каралеўская труна

У пачатку 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі дзейнічалі бальшавіцкія партызанскія атрады, на чале з кадравымі разведчыкамі. Адзін з іх, Станіслаў Ваўпшасаў, разам са сваімі баевікамі ў жніўні 1924 года падрыхтаваў напад на Стоўбцы. Яго мэтай было вызваленне першага сакратара Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Паўла Корчыка і іншых чальцоў КПЗБ. Напад быў удалым, аднак польскія ўлады затрымалі некалькі чалавек, якія на допыце прызналіся, што прайшлі спецыяльную падрыхтоўку ў Мінску. Менавіта гэтая акцыя прымусіла польскія ўлады стварыць Корпус аховы памежжа, які да верасня 1939 года нёс службу на лініі савецка-польскай мяжы, у тым ліку і ў Стоўбцах.

У сакавіку 1925 года падчас абмену палітычнымі зняволенымі ў Коласава польскі паліцэйскі Іосіф Мурашка застрэліў двух бальшавіцкіх агентаў. За гэта яго прысудзілі да некалькіх гадоў турмы. У верасні 1933 года там жа адбыўся абмен Браніслава Тарашкевіча на Францішка Аляхновіча.

Вясной 1938 года савецкі ўрад вырашыў зачыніць касцёл Святой Кацярыны Александрыйскай у Ленінградзе і запрапанаваў польскаму ўраду забраць парэшткі апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага на Радзіму. Палякі пагадзіліся.

Вось як гэтыя падзеі ўзгадваў адзін з іх удзельнікаў, кіраўнік савецкага аддзела польскага МЗС Станіслаў Забела: «Было адзначана, што парэшткі караля былі моцна пашкоджаны пастаяннай вільгаццю [...]. Усё сабранае было перавезена на чыгуначны вакзал, змешчана ў драўляную скрыню пад пячаткай. Да польскай мяжы патаемны груз суправаджаў консул Польшчы ў Ленінградзе. На трэці дзень пасля эксгумацыі каралеўскіх парэшткаў, 9 ліпеня, вагон, прычэплены да пасажырскага цягніка, прыбыў на мяжу ў Стоўбцах. Маскоўскія чыгуначнікі перадалі польскім калегам накладную з надпісам: «Польшча» і тлумачэннем: «Парэшткі».

## Вызваленне

Польскія ўлады разумелі, што Стоўбцы — сапраўдныя вароты ў Еўропу. Таму тут быў пабудаваны новы чыгуначны вакзал, дамы для чыгуначнікаў, адміністрацыі, а таксама супрацоўнікаў КАП. У горадзе з'явіўся клуб «Рэдута». А таксама гімназія імя Тадэвуша Галаўко. Планавалася развіваць у Стоўбцах турызм, дзеля чаго на Нёмане была пабудавана турыстычная база.

Але пасля пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года» галоўны ўдар Дзяржынскай конна-механізаванай групы прыйшоўся на батальён КАП «Стоўбцы» пад камандаваннем падпалкоўніка Станіслава Краеўскага. Ужо ў 5 гадзін раніцы савецкім памежнікам з 16-га Дзяржынскага памежнага атрада ўдалося зламіць супраціў капістаў у стражніцах «Коласава», «Бардзі» і «Маразовіцы». Падчас бою ў Коласава камандаванню Чырвонай Арміі прыйшлося прымяніць артылерыю. Пры гэтым польскім памежнікам удалося смяротна параніць савецкага капітана-памежніка Ермакова і каля дзесяці яго падначаленых. Стражніцу «Смалярня» савецкія жаўнеры закідалі гранатамі. На працягу дня ў кровапралітных баях з пераўзыходзячым праціўнікам батальён КАП быў знішчаны.

Да чэрвеня 1941 года ў Стоўбцах і Коласава неслі службу савецкія памежнікі. Там, на «лініі загароды», яны і сустрэлі напад Германіі на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 года.

Юрка КОПЦІК

# Зміцер Бартосік: захоплены Беларуссю

**Зміцер Бартосік — найбольш просты і таварыскі выканаўца на сцэне нацыянальнай аўтарскай песні з усіх, каго я ведаю. З ім проста размаўляць і лёгка дамаўляцца. Ён лёгкі на пад'ём і гатовы ехаць практычна ў любы куток, дзе толькі ёсць аматары аўтарскай песні, гатовыя яго слухаць. І гэта пры тым, што ён бацька чатырох дзяцей.**

Упершыню мне давялося яго пачуць у 1992 годзе, калі ён прыехаў на фестываль беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва–92». У першыя гады гасцей фэсту яшчэ сустракалі на прывакзальнай плошчы. Там да мяне падышоў ладны чарнявы хлопец з гітарай, смела зірнуў у вочы:

— Зміцер Бартосік, Гомель.

— А, нешта чуў, — ветліва азваўся я.



## «Расея-мачаха, бывай!»

На гэтым фестывалі было практычна першае яго публічнае выступленне. І словы ён забываў, і хваляваўся страшэнна, і саміх песень у яго тады было толькі дзве, але якія то былі песні! І сёння можна сказаць: гэтыя дзве песні — адны з самых моцных рэчаў з усяго напісанага ім.

Адразу прывабіла яго нейкая шырокая, размашыстая манера выканання, якая нечым нагадвала Ягора Летава, што пазней стала пазнакай уласнага стылю. Выразная, падкрэслена цвёрдая дыкцыя з акцэнтам на апорныя словы паэтычнай штрафы. Вымаўленне нібыта знарок расцягнутае, але пры гэтым яно не выпадае з рытмікі песні. Паміж запевамі няма ніякіх пройгрышаў-паўзаў. Гэтак у нас, бадай што, ніхто сёння не спявае.

«На руінах Вялікага княства / Не засталася ніводнага князя, / Адышлі ў нябыт, як паганства, / Радаводаў шляхетныя вязі. / Не ўзнесціся больш гэтым сценам. / Адгрымелі мячы, змоўклі ліры. / І блукаюць магутныя цені / Па мурах Навагрудку і Міру».

Помню, як тады падумалася: халера, як глыбока капае гэты пачатковец! На пярэднім плане — праблема нацыянальнага адчування сябе і ўсіх нас у новых рэаліях часу, глыбокага разумення нашага мінулага. Праблема, не пазбытая і сёння.

Другая песня, што прагучала тады на Крапіўне, была проста містычна-прарочая балада «Расея-мачаха, бывай!»: «Апошні шанц сабе дамо, / Замардаванаму народу, / Каб скінуць гнюснае ярмо / Двухсотгадовага прыгону. / Расея-мачаха, бывай! / У моц і шыр сваіх абдымак / Ты іншых братаноў шукай, / А нам пара на адпачынак».

Для пачаткоўца ўзяць такую тэму і не заваліць — пад сілу толькі сапраўднаму таленту і асобе. Тады якраз толькі ляснуўся СССР, і, па шчырасці, мала хто верыў, што мы сталі суверэннымі надоўга, дык якое ўжо там «бывай»?! А ён як гуру здолеў зазірнуць у сённяшні дзень і ўсё прадбачыць; чым больш настойліва нас сёння туды зноў будуць цягнуць, тым больш будзе супрацьдзеянне: «Давай абдымемся шчэ раз, / Каб за памежнымі слупамі / Згадаць з табой пражытый час / З слязьмі паўнюткімі вачамі. / Расея-мачаха, бывай! / Няма цяпла пад моцным крылам / У птушкі заўтрашняга дня, / Ці то арол, ці голуб міру».

Сёння ўсе пераканаліся, што ніякі гэта не голуб міру, а той жа чорны драпежны арол. І ў нас з ім розныя погляды на супольную гісторыю і розныя шляхі цяпер. І чым больш сплывае часу, тым больш гэта становіцца ўсім нам відавочна: «Расея-мачаха, бывай! / У цябе зашмат сваіх турботаў, / Нам на шляху не замінай / Ва ўлонне матухны Еўропы. / Расея-мачаха, бывай!»

Вось так, адразу і незваротна. Нагадаю, гэта быў 1992 год. Цікава, што сам Бартосік пасля не раз выступаў на «Аршанскай бітве», але не спяваў больш гэтых дэкларацый, гаворачы ўсюды, што забыў іх. У яго расійскія карані з дамешкам польскай крыві: ягоны дзед — з адэскіх палякаў, бацькі — рэжысёр і акторка, нарадзіўся ў Рыбінску. Ён вучыўся ў Ніжагародскім тэатральным, адкуль вылецеў з другога курсу, паводле ягонага ж прызнання, за бяздарнасць.

Хаця да гэтага яшчэ ў 13 гадоў зняўся ў знакавым для нас фільме «Чужая бацькаўшчына» паводле рамана Вячаслава Адамчыка. За свой кінематаграфічны ганарар — аж цэлых 60 рублёў — купіў сваю першую гітару, якая і цяпер яшчэ пры справе. Аўтарскую песню ведаў з дзяцінства — у сям'і трывала гучалі запісы Акуджавы і Высоцкага.

## Покліч крыві

Відаць, покліч родавай крыві ўсё ж узяў сваё, бо спадчыннае дзедава прозвішча паходзіць ад этноніму «барты» — было некалі такое племя заходніх балтаў (цікава, ці ведае ён сам гэта?) Калі верыць Змітру, дык мову ён вывучыў за тры месяцы, у асноўным слухаючы беларускае «Радыё Свабода». Бо на той час ужо жыў у Гомелі і хацеў да свайго эстэтычнага задавальнення ад краху СССР спрычыніцца неяк больш грунтоўна.

Другім паваротным момантам для Бартосіка стала Вільня. Паступаў на філфак, і, не паступіўшы, проста вырашыў там застацца. Настолькі быў зачараваны яе брукаваным сярэднявечным лабірынтам, «дзе яшчэ не заціхлі крокі мэтраў тае нашаніўскае пары». Тая зачараванасць стала крыніцай натхнення цэлага песеннага цыклу «Да пабачэння. Do widzenia. Viso gero» (тры мовы Вільні), які стаў першым афіцыйным выданнем Бартосіка на магнітакасеце ў 1997 годзе; сёння абсалютны фанаграфічны рарытэт.

Загалоўная песня гэтага цыклу — «Развітанне з Вільняй» — суцэльнае прызнанне нават не ў любові, а менавіта ў каханні да «гаспадыні пані Вільні». Прызнанне кранальнае і драматычнае: «Такія месты проста так не пакідаюць. / З іх адыходзяць з Богам хто, / А хто з баямі».

Бадай, самая пачуццёвая балада Бартосіка.

У іншай знакавай песні гэтага цыклу «Гародня, 1795» Зміцер нібыта палемізуе з сабой жа ўзору 1992 года. Гэта ў рытме салоннага вальсочку дыялог двух расійскіх афіцэраў, аптыміста і песіміста, у паходным біваку расійскага войска ў прадмесці Гародні па завяршэнні кампаніі. З пралогам і эпілогам. І аптыміст у канцы прамаўляе нібыта прарочыя словы: «Будут нам присягать этих мест сыновья, / И от наших штыков ждать защиты. / Мы не пяди земли этой не отдадим, / Она нашею кровью полита... / Мы уедем, умрем, нас возможно убьют, / Но Россия тут будет навечно. / Засынала Гародня пад гукі яшчэ / Не зусім зразумелае мовы. / Як заўсёды, на захад святло адышло, / Ноч прыйшла, як звычайна, з усходу».

Выдатна знойдзеная фінальная фарба. Як не дзіўна, але спрычынёвай для Бартосіка стала зусім іншая песня таго цыклу — «Запой». Вось дзе загаварылі расійскія гены! Па-руску распеўная і размашыстая нават больш, чым звычайна ў Бартосіка, песня ўводзіць слухача ў свет планавання цяжкага загулу аўтара з сябрам, каб пазбегнуць нервовага зрыву ці нават чаго горшага, выключыўшы ўсе сродкі інфармацыі, «каб не чуць спадара прэзідэнта», з рэфрэнам як мантра: «Забяры мяне, сябра, у запой!»

Хто памятае атмасферу таго часу, таму знаёмыя ўсе гэтыя адчуванні ды эмоцыі. Як ніякай іншай, тканіна песні напоўненая містычнай прыцягальнай сілай і моцай.

## Суцэльная палітычная сатыра

«Гандурaскі серыял» быў ужо сапраўдным альбомам на CD, і з'явіўся праз 10 гадоў пасля магнітакасеты. Строга кажучы, гэта праця г першай паловы «Да пабачэння...», бо ўвабраў у сябе практычна ўсе тыя песні з першага цыклу, што былі ў стылі «Запою».

Суцэльная палітычная сатыра, як пазначыў гэты альбом сам аўтар. Слухач патрапляе ў мыльнаоперную краіну Гандурас, пад якой без цяжкасці праглядаецца Беларусь, дзе галоўны герой усіх часоў і гарадоў дон Лукаса.

Смеласць аўтара, канешне, уражвае; ніхто ні тады, ні цяпер не зрабіў і блізка нічога падобнага на гэты альбом. Ды толькі немагчыма не ўгледзець за гэтымі песнямі цень Высоцкага.

Але ці то Бартосіку нестае акторскага таленту вялікага папярэдніка, ці то часам перагінае ён аж за край, як у «Баладзе пра таварыша Гастэла», але пад канец «Серыялу» з'яўляецца адчуванне не весялосці, як у Высоцкага, а змрочнай нуды.

«Дарога на Вільню» выйшла ў 2008 годзе і пакінула дваякае ўражанне. З аднаго боку, спроба вярнуцца да віленскай тэмы, але па-іншаму, сталася нейкай чужой, не пераканаўчай, не Бартосікавай. З другога боку, гэта праця г тэматыкі «Серыялу». З'явілася ўстойлівае адчуванне, што Зміцер паўтараецца. Здаецца, гэта быў пачатак творчага крызісу таленавітага аўтара.

## Барды свабоды

Таму абсалютна зразумелым стаў доўгайграючы праект «Барды Свабоды» на «Радыё Свабода», дзе ён тады пачаў працаваць. Дзе Бартосік раскрыўся не толькі як таленавіты радыёжурналіст са сваім пазнавальным стылем, але стаў яшчэ поруч з Ягорам Маёрчыкам, укладальнікам анталогіі беларускай аўтарскай песні.

Ніхто да гэтага нават уявіць сабе не мог, колькі ў нас людзей спявае пад гітару свае песні. Вынікам гэтага праекту стала эпахальнае выданне РС адмысловага дыску «Барды Свабоды» (2010 г.) і наступнага «Сто бардаў Свабоды» (2011 г.). Нічога падобнага ў нас ніколі не выдавалася.

Але шкада, што замест звыклага спажыўцу фармату аўдыё ці MP-3 адмыслоўцы на РС абралі для гэтых дыскаў такую хітрую праграму, што далёка не ўсякі кампутар здольны яе запусціць...

Другой відавочнай хібай гэтага праекту стала тое, што Бартосік захапіўся ім настолькі, што ўцягнуў у яго вір і тых людзей, якія ўласна да аўтарскай песні не маюць ніякага дачынення, як той жа Лявон Вольскі, які працуе ў іншым жанры. Пра што ён у інтэрв'ю сам і гаворыць.

Апошні твор Бартосіка выйшаў у 2012 годзе. Гэта альбом «Дзве гітары. Расійская аўтарская песня ў перакладах Рыгора Барадуліна». Гэты дыск — ужо наўпроставае сведчанне глыбокага творчага крызісу.

Тут ёсць такая тонкасць: калі, скажам, Вольга Цярэшчанка ад пачатку піша песні на словы іншых людзей, то гэта пазіцыя. Але калі ты пісаў свае песні, а потым перастаў і пачаў выконваць нешта іншае — дык гэта крызіс. Нават пры ўсёй павазе да Рыгора Іванавіча, слухаць «Раскинулось море широко» ці яшчэ нейкі стандарт расійскага гарадскога рамансу, нават у перакладзе мэтра, мне не цікава.

Мне цікава слухаць яго на мове арыгіналу, якую мы ўсе добра ведаем і разумеем. Мне больш цікава слухаць «Падарожжы Свабоды» Бартосіка. Ён таленавіты журналіст, і гэта пакідае надзею. Надзею на пераадоленне творчага крызісу ў жанры беларускай аўтарскай песні, які сёння ахапіў многіх вядомых і таленавітых аўтараў.

# Прывітанне з Ліепаі

Ксенія ЛІТВІНОЎСКАЯ

**Ва ўсёй палітры фарбаў і талентаў паўстала экспазіцыя латвійскіх мастакоў, што адчынілася ў Мінску. «Прывітанне, Беларусь!» — з такой непасрэднай і шчырай назвай выстава адрасуецца ўсім аматарам мастацтва.**





**У галерэі Міхаіла Савіцкага беларусам прадстаўляецца рэдкая магчымасць пазнаёміцца з творчасцю сучасных латышскіх майстроў**

«Гэта насамрэч вельмі яркая і прыгожая выстава», — падзяліўся ўражаннямі падчас прэзентацыі і намеснік латвійскага амбасадара Гінтс Серафіновічс. Аўтары шчодра дзеляцца сваімі эмоцыямі і энергіяй, якія яны ўвасобілі ў палотнах.

У галерэі Міхаіла Савіцкага размясціліся 63 карціны 33 мастакоў з Ліепаі. А беларусам прадстаўляецца рэдкая магчымасць пазнаёміцца з творчасцю сучасных латышскіх майстроў у самым шырокім спектры.

Гэта і разнастайныя кірункі — ад рэалізму да постмадэрнізму і абстракцыянізму. І тэхнікі: акрамя жывапісных палотнаў — калаж з тканіны, валенне з воўны, вышыўка і фотамантаж. Гэта і розныя тэмы і настроі аўтараў. Яніс Гунарс Калнмаліс паказаў Латвію ў яркіх фарбах пейзажу. Водная стыхія Беніты Бітане паўстала ў шэра-дажджлівых тонах. Адзінота і сум — у карцінах Івоны Каліта з бадзяжным сабакам і Ілоны Слайдзіня з самотнай жаночай постаццю. Жанр «ню» прадставіў Андрыс Мілерс, а Дзінтра Разентале захавала ў акварэлі вуліцу ў Старой Ліепаі.

Як паведаміла дырэктар Ліепайскага музея Дацэ Каркла, выставу рыхтавалі паўгады. «Тут можна паглядзець аўтараў розных пакаленняў, — адзначыла яна. — Экспазіцыя паказвае, як сёння ў Ліепаі працуюць мастакі. На гэтай выставе пераважна прадстаўлены творы апошніх гадоў. Наш музей у снежні адзначаў 90-годдзе. Мы паказваем гісторыю горада і рэгулярна робім мастацкія выставы. На гэтай выставе вы таксама адчуваеце дух Ліепаі, дух Латвіі. І я хачу, калі вы паедзеце ў Латвію, усіх вас запрасіць у Ліепайскі музей».

А кіраўнік аддзела культуры горада Ліепая Юрыс Юргенс на прэзентацыі наўпрост прызнаўся ў любові да беларусаў і Беларусі: «У 1984 годзе я недалёка ад Мінску служыў салдатам. Я вырашыў вярнуцца ў Беларусь, у Мінск, калі я не буду салдатам і змагу ісці куды хачу ды рабіць тое, што хачу. Прайшло 30 гадоў. Я скончыў універсітэт, зрабіў кар'еру і вось толькі зараз я ў Беларусі. Учора вечарам, сёння днём я адчуў — не змянілася нічога: гэта дабрыня і гасціннасць, якая ідзе ад людзей. Я шмат дзе быў. Але так, як у Беларусі, не адчуваў сябе нідзе. І так люблю вас усіх! Сёння я выступаю не як чыноўнік, а проста як чалавек, які вельмі добра пачувае сябе тут».

Прадстаўнікі латвійскай дэлегацыі і Беларускага саюза мастакоў выказаліся за сталае супрацоўніцтва. Плануецца, што яно будзе мець працяг у Ліепаі, куды ўжо з прывітаннем з Беларусі прыедуць беларускія мастакі.

## Стыпендыяльная праграма імя Стэфана Банаха

**Пачаўся набор на чарговую стыпендыяльную праграму імя Стэфана Банаха. Праграма скіравана да студэнтаў з краін — чальцоў Усходняга партнёрства, якія пачынаюць навучанне на другой і трэцяй ступенях. Правер, як вучыцца ў Польшчы з праграмай імя Стэфана Банаха.**

З 2015/2016 навучальнага года Стыпендыяльная праграма імя Стэфана Банаха была пашырана і на трэцюю ступень адукацыі. Дзякуючы гэтаму, шанцы атрымаць стыпендыю маюць кандыдаты на дадатковае навучанне ў магістратуры і аспірантуры. Памер стыпендыі, прызначанай на выдаткі на пражыванне і ўтрыманне, складае 1350 польскіх злотых у месяц. Праграма прапаноўвае стыпендыі на бясплатнае навучанне другой і трэцяй ступені ў дзяржаўных навучальных установах, кантраляваных адпаведным міністрам вышэйшай адукацыі.

З 2015 г. праграма ўключае:

- навучанне другой ступені ў галіне дакладных, прыродазнаўчых, тэхнічных, аграрных, лясных, ветэрынарных навук, а таксама на эканамічных спецыяльнасцях, еўрапеістыцы і правазнаўстве (спецыялізацыя — еўрапейскае права). Набор кандыдатаў будзе праходзіць пры падтрымцы польскіх прадстаўніцтваў.
- навучанне трэцяй ступені ў галінах навук: гуманітарных, тэалагічных, грамадскіх, эканамічных, юрыдычных, матэматычных, фізічных, хімічных, біялагічных, навук пра Зямлю, тэхнічных, аграрных, лясных і ветэрынарных. Набор кандыдатаў будзе адбывацца пры пасрэдніцтве навучальных установаў, якія набіраюць студэнтаў.

У рамках сёлетняй праграмы кандыдаты на другую ступень навучання перадаюць камплект дакументаў у Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь або ў генеральныя консульствы Рэспублікі Польшча ў Брэсце і Гродне да 26 чэрвеня 2015 г. Тэрмін падачы дакументаў для трэцяй ступені навучання заканчваецца 3 ліпеня 2015 г.

**Паводле інфармацыі прэс-службы Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі**

## «Navi» адкрые «Заспявай 2.0»

**Гурт «Navi» выступіць на тэрасе кавярні «Chill-Out» на плошчы Свабоды 19 чэрвеня. Іх выступ падтрымае гурт «Палац» з акустычнай праграмай.**





Гурт «Navi», аснову якога складаюць Арцём Лук'яненка (22 гады) і Ксенія Жук (22 гады), стаў адным з фіналістаў конкурсу «Заспявай 2.0». Музыкі падалі заяву на ўдзел у дзвюх намінацыях — «Кавер» і «Спяваная паэзія», і ў абодвух былі адзначаныя журы.

На «Кавер» музыкі падалі песню «Жар-птушка» на верш Генадзя Бураўкіна, якую выконваў ансамбль «Сябры». «Мы вырашылі ўзнавіць гэтую цудоўную песню. Пранікнёная, прыгожая кампазіцыя, якая кранае душу, і пра якую, на жаль, мала хто ведае цяпер. Наша мэта — узнавіць песню і нават уключыць яе ў канцэртную праграму», — кажа вакалістка Ксенія Жук.

Для намінацыі «Спяваная паэзія» «Navi» падрыхтавалі твор на верш вядомага беларускага паэта 20-х гадоў мінулага стагоддзя Паўлюка Труса «Плакалі ветры». «Хоць аўтар — не сучаснік, але тэкст твора абсалютна сучасны і можа адлюстроўваць эмоцыі і перажыванні сучаснага чалавека. Тэма кахання будзе заўсёды актуальнай. Таму лічым, што песня можа быць сучаснай і закрануць слухача», — кажа Арцём Лук'яненка. «Navi» ўжо выканалі яе на сваім сольным канцэрце пры ўдзеле госця — лідара гурта «Палац» Алега Хаменкі.

Падчас свайго сэта на тэрасе «Chill-Out» 19 чэрвеня «Navi» сыграюць свае конкурсныя песні, а таксама абраныя творы з альбому «Сонцам сагрэтыя». Паводле задумы летніх канцэртаў, кожнага фіналіста «Заспявай» падтрымае сваім выступам вядомы гурт. Госцем гэтага вечару стане якраз гурт «Палац», які выступіць пасля «Navi» з гадзінным сэтам найлепшых песень у акустычным гучанні.

Па выніку летніх канцэртаў маладых выканаўцаў будуць вызначаныя пераможцы конкурсу «Заспявай 2.0», які праводзіць партал Tuzin.fm і фонд «Вяртанне» пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!». Прызавы фонд конкурсу складае 1000 еўра.

19.06. Тэраса кавярні «Chill-Out» (плошча Свабоды, 4). «Navi». Пры падтрымцы гурта «Палац». Пачатак у 20.00. Кошт квіткоў — 120 000 — 160 000. Толькі 50 месцаў! Інфалінія: +375 29 6768195

**«Будзьма беларусамі!»**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 486

Падпісана да друку 12. 06.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.